www.nv-online.info – электронны дадатак да друкаванай версіі газеты «Народная Воля».

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
***Якуб КОЛАС***

№ 36 (4288)

4 мая 2018 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

*Шаноўныя сябры! Не забудзьце падпісацца на "Народную Волю" на другую палову 2018 года!*

ПА СВЕЖЫХ СЛЯДАХ

## Пралёт…

1 Мая…

Міжнародны дзень салідарнасці працоўных у барацьбе за свае правы.

Па-рознаму ён адзначаецца ў розных краінах.

На гэты раз мяне парадавала загадзя распаўсюджаная абвестка, што беларускія ўлады дазволілі правесці мітынг незалежным прафсаюзам. І не на "сабачым выгуле", а ў Кіеўскім скверы, што ў цэнтры Мінска.

Ну, думаў я, нарэшце ў нашых дэмакратычных абаронцаў з'явіўся шанец прадэманстраваць сваю згуртаванасць, свой аўтарытэт сярод працоўнага люду. Меркаваў, што да незалежных прафсаюзаў далучацца палітычныя партыі, грамадскія дэмакратычныя суполкі – і разам удасца склікаць на мітынг дзясяткі тысяч людзей і ад іх імя заявіць уладам пра ўсё-ўсё, што ляжыць каменем на іх душах.

Хоць я ўжо пенсіянер і даўно не працую на заводзе, але ў панядзелак вечарам вярнуўся з дачы, каб у аўторак далучыцца да мітынгуючых. Не, не да тых, хто чакае не дачакаецца 1 Мая, каб стаць пад чырвоныя сцягі і дэманстратыўна пapляскаць у далоні таму ці іншаму стаўленіку ўлады, які ў чарговы раз абавязкова скажа пра салідарнасць працоўных з кіруючымі вярхамі краіны, пра тое, як улады дбаюць пра інтарэсы простых людзей. Напярэдадні я сустрэўся са сваяком, які працуе на адным з мінскіх прадпрыемстваў. Дык ім паступіла разнарадка: ад кожнага цэха вылучыць па два чалавекі для ўдзелу ў першамайскім святкаванні афіцыйных прафсаюзаў. Паколькі ніхто з рабочых не пагадзіўся, то давялося даць згоду кіраўніцтву цэха.

Ды які інтарэс мне, пенсіянеру, стаяць побач з нейкім Ардой, які ведае, у якое жабрацтва загналі ўлады многіх пажылых людзей, але я ні разу не чуў, каб ён з абурэннем гаварыў пра гэта? Яго місія, як я бачу, заключаецца ў іншым – каб не дапусціць народных хваляванняў, усяляк падтрымліваць тых, хто сёння кіруе дзяржавай. З яго вуснаў, як і з вуснаў іншых праўладных прафсаюзных функцыянераў, прэ чысцюткай вады дэмагогія, хлусня, скіраваныя на стрымліванне людзей ад актыўных пратэстных дзеянняў, адцягванне іх увагі ад вострых набалелых праблем.

І я вырашыў 1 Мая адзначыць разам з незалежнымі прафсаюзамі. У прызначаны час з'явіўся ў Кіеўскім скверы. Якім было маё здзіўленне, калі ўбачыў усяго некалькі дзясяткаў чалавек! Праўда, на падыходзе заўважаліся невялічкія купкі людзей. Калі пачынаўся мітынг, я налічыў недзе пад сто пяцьдзясят асоб. Нават калі мець на ўвазе, што хто-ніхто з прахожых спыняўся і прыслухоўваўся да таго ці іншага прамоўцы, то ўсё роўна колькасць прысутных на мітынгу не пераваліла за дзвесце чалавек. Мала, вельмі мала! Шчыра скажу, мне стала крыўдна ад таго, што нават у такі дзень, калі працоўныя ва ўсім цывілізаваным свеце адзначаюць 1 Мая згуртаванасцю, дэманстратыўным напамінаннем уладам пра свае правы, мы, беларусы, абыякава ставімся да свайго лёсу, не падаём гучнага голасу ў абарону сваіх інтарэсаў.

Назаўтра ў "Народнай Волі" я прачытаў выказванне старшыні Беларускай партыі левых "Справядлівы свет" Сяргея Калякіна: маўляў, так мала людзей прыйшло на мітынг, скліканы незалежнымі прафсаюзамі, таму, што за многія гады, калі на такія акцыі ўлады не давалі дазволу, яны адвыклі ад удзелу ў масавых мерапрыемствах. Доля праўды ў гэтых словах ёсць, але толькі доля. Памятаецца, у мінулым ці пазамінулым годзе дазвол на правядзенне мітынгу быў, але незалежныя прафсаюзы адмовіліся ад акцыі, выказваючы такім чынам нязгоду з тым, што гарвыканкам забараніў дэманстрацыю. Можна сабе ўявіць, як выглядала б тая дэманстрацыя пры ўдзеле ў ёй, зноў жа, 150–200 чалавек. Таму справа, хутчэй за ўсё, не ва ўладах, а ў саміх прафсаюзах і іх партнёрах.

У прэсе перыядычна з'яўляецца інфармацыя пра рознагалоссі ў кіраўніцтве незалежных прафсаюзаў. Быццам бы старшыня прафсаюза радыёэлектроннай прамысловасці Генадзь Фядыніч разыходзіцца ў прынцыповых пытаннях са старшынёй Беларускага кангрэса дэмакратычных прафсаюзаў Аляксандрам Ярашуком. Няма паразумення і паміж іншымі грамадскімі лідарамі. Як, дарэчы, і паміж палітычнымі актывістамі. Дык ці не ў гэтым галоўная прычына таго, што на першамайскі мітынг з'явіліся ўсяго нейкія 150–200 чалавек?

Я, магчыма, і не ўзяўся б за пяро, калі б у галаве не круцілася трывожная думка: што, у нас незалежныя прафсаюзы толькі на паперы? Той жа Генадзь Фядыніч у сваіх інтэрв'ю сцвярджае, што на парозе іх ледзь не кожны дзень стаіць чарга пакрыўджаных уладамі людзей. А што за словамі? Усе незалежныя прафсаюзы разам з палітычнымі партыямі не змаглі сабраць на мітынг хаця б некалькі тысяч чалавек.

Што ні кажыце, а пралёт дэмакратычных сіл з першамайскай акцыяй на руку ўладам. Пры любой нагодзе яны будуць паўтараць: вось бачыце, які мізер народу падтрымлівае іх, так званых незалежнікаў! Чыноўнікі, вядома ж, прамаўчаць пра сваю палітыку ўдушэння дэмакратычных прафсаюзаў, а вось ролік пра тое, што ў Кіеўскі сквер прыйшло вельмі і вельмі мала людзей, а значыць, у таго ж Фядыніча няма падтрымкі ў шырокіх масах, будзе пракручаны не раз.

Я не лічу, што лідарам незалежных прафсаюзаў трэба пасыпаць галаву попелам. Але і сур'ёзную выснову з першамайскага правалу трэба зрабіць. На мой погляд, галоўная прычына – не ў запалохванні людзей з боку ўлад, нават не ў ганебных рэпрэсіях, а ў тым, што і незалежныя прафсаюзы, і апазіцыйныя палітычныя партыі, і розныя грамадскія дэмакратычныя суполкі пакуль не дайшлі да шырокіх народных мас, не зліліся з імі, не згуртавалі іх дзеля абароны асноўных законных грамадзянскіх правоў. А як хацелася б хутчэй убачыць рэальныя зрухі ў гэтым накірунку!

**Андрэй ШУБІН,**
**пенсіянер, ветэран працы.**

ПАДЗЕЯ

## Помнік Касцюшку ўрачыста адкрыюць 12 мая

*Хаця яго ўжо ўсталявалі ў Марачоўшчыне Івацэвіцкага раёна каля музея нацыянальнага героя Беларусі, Польшчы і ЗША.*

*"Такіх прыгожых помнікаў вы яшчэ не бачылі", – напісаў у* "Фэйсбуку" ініцыятар гэтага праекта **Глеб Лабадзенка**.

Урачыстае адкрыццё адбудзецца 12 мая ў 12.00.






СУД

## Тэрміны для «дзядоў»

*Учора суд Гродзенскага раёна асудзіў за "дзедаўшчыну" 21-гадовага сяржанта Уладзіслава Яльца і 24-гадовага яфрэйтара Максіма Малышку.*

Суд прызнаў, што Ялец вінаваты ў перавышэнні службовых паўнамоцтваў, спалучаным з гвалтам, а Малышка – у саўдзельніцтве. У выніку першы быў асуджаны на 4 гады калоніі ўзмоцненага рэжыму, другі – на 3 гады і 6 месяцаў калоніі ўзмоцненага рэжыму.

Рашэнне пакуль не ўступіла ў сілу, бакі яшчэ могуць яго абскардзіць у вышэйшай інстанцыі.

ТАМ, В ЕРЕВАНЕ

## Пашинян – пока не премьер-министр Армении

Как известно, лидеру протестного движения Армении Николу Пашиняну пока не удалось получить необходимое количество голосов в парламенте, чтобы стать новым главой правительства Армении.

1 мая в Ереване была созвана чрезвычайная сессия армянского парламента. На повестке дня стоял один вопрос – выборы премьер-министра. Никол Пашинян был единственным кандидатом на этот пост. Правящая Республиканская партия Сержа Саргсяна решила не выставлять собственного кандидата, чтобы не нагнетать напряженность в стране.

Интрига выборов состояла в том, что Пашиняну необходимо было набрать 53 голоса. Предварительно 47 у него уже были – это голоса оппозиционных членов парламента, которые ранее заявили о намерении голосовать за Пашиняна. Для утверждения ему не хватало шести голосов от Республиканской партии, которая правит в Армении с 1999 года. Но он от республиканцев получил всего один голос. Его поддержал генерал Феликс Цолакян.

Перед процедурой голосования Пашинян несколько часов выступал в парламенте. Коллеги-депутаты расспрашивали о его позиции в отношении внутренней и внешней политики. Суть его предвыборного выступления, если сказать коротко, сводится к одному – многовекторности политики Армении в случае его премьерства.

*"Мы считаем Россию стратегическим союзником, наше движение не создает для этого угроз"*, – заявил Пашинян. И добавил, что Армения останется членом ЕАЭС и ОДКБ. Вместе с тем он отметил: *"Мы будем углублять отношения с ЕАЭС и со странами ЕС. Будем делать все для граждан Армении для устранения требований визового въезда в страны ЕС. Надеемся начать эти переговоры в ближайшем будущем"*.

*"Соглашение [с ЕС] об углублении сотрудничества будет скоро ратифицировано"*, – отметил Пашинян.

Кроме того, по его словам, *"дружеские отношения с США нуждаются в новом толчке, нацелены для этого предпринять шаги"*.

**Анна ГОНЧАРИК.**

## «Это борьба за права человека и верховенство закона»

*Лидер армянского протестного движения Никол Пашинян объявил перерыв в кампании гражданского неповиновения.*

Накануне правящая Республиканская партия Армении согласилась поддержать кандидатуру Пашиняна на пост премьер-министра. Голосование в парламенте состоится 8 мая.

*«Вопрос практически решен. Все фракции заявили, что поддержат мою кандидатуру... Мы приостанавливаем протесты и идем отдохнуть»*, – сказал Пашинян десяткам тысяч сторонников, собравшихся в Ереване.

Пашинян призывает сторонников провести большой митинг в следующий вторник, чтобы *«скрепить нашу победу»*.



Он также заявил, что протестующие борются за свои права и достоинство, а не за премьер-министра: *«Я хочу четко объяснить: это не борьба за то, чтобы Никол Пашинян стал премьер-министром, это борьба за права человека, демократию, верховенство закона, и поэтому наша нация не устала и не устанет»*.

ГРОМКОЕ ДЕЛО

## Как «полковник В.» Родине изменял

Глава КГБ **Валерий Вакульчик** на днях похвастался успехами ведомства и рассказал о грандиозном разоблачении «серьезного агента иностранной разведки, высокопоставленного военнослужащего».

По словам Вакульчика, полковник запаса имел доступ к особо охраняемым сведениям в Генеральном штабе, Государственном секретариате Совета Безопасности и даже некоторым документам, поступающим из Комитета государственной безопасности.

*«Это лицо задержано с поличным, он уже признал вину, в отношении него проводятся соответствующие следственные действия для полного и всестороннего расследования данного преступления и привлечения его к ответственности в соответствии с законом»*, – заявил председатель КГБ.

«Народная Воля» поинтересовалась, почему шеф Госбезопасности не назвал имя этого сверхсекретного агента. Например, когда задерживают крупных белорусских бизнесменов, чиновников, директоров предприятий или представителей оппозиции, их имена моментально попадают во все эфиры. А тут человек, если верить Вакульчику, Родину продавал, но его имя засекретили.

– Видимо, вы не очень внимательно смотрели сюжет БТ: Валерий Павлович отметил, что это бывший высокопоставленный военнослужащий полковник запаса В., который имел доступ к особо охраняемым сведениям, – *сказал «Народной Воле» официальный представитель КГБ Беларуси* ***Андрей Георгиевич Ярош.*** – Так что он его назвал.

**– Он назвал лишь первую букву фамилии, а остальные?**

– Мы не разглашаем пока эту информацию. И более детально и более подробно не комментируем.

**– А почему не разглашаете?**

– Не пришло время.

**– У вас на официальном сайте висит новость о задержании за взятку директора Департамента по авиации Костина – его фамилия указана. Объясните, почему с полковником В. другой подход?**

– Бывают случаи, когда мы считаем, что называть фамилии преждевременно.

**– Тогда зачем об этом рассказывать на публику, говорить, что человек задержан с поличным, признался?**

– Не пришло время обнародовать все детали данного преступления, в том числе и фамилию этого человека. Есть нюансы в нашей работе…

**Марина КОКТЫШ.**

НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА



Борис ЖЕЛИБА, профессор, доктор экономических наук

## Радоваться рано

На состоявшемся недавно совещании по вопросам социально-экономического развития чиновники излучали невероятный оптимизм, связанный с относительно высокими темпами роста белорусской экономики. Действительно, уже первые два месяца рост был значительно больший, чем планировало правительство. На это, естественно, незамедлительно отреагировала государственная пропаганда: мол, белорусская экономика в 2017 году вышла из рецессии (рост ВВП на 2,4%) и на всех парах в нынешнем году восстанавливает утраченные позиции. Как отметил на совещании премьер-министр, в первом квартале в годовом измерении экспорт товаров и услуг увеличился на 29,8%, сальдо внешней торговли – положительное (206 млн долларов), инфляция в пределах прогноза. Однако аналитики предупреждали, что солидный рост ВВП на 5,1% за первый квартал во многом определяется низкой сравнительной базой аналогичного периода прошлого года, когда белорусские НПЗ, всегда вносящие существенный вклад в формирование ВВП страны, остро ощущали недопоставки российской нефти. И только к концу 2017 года по мере решения с Россией энергетических проблем ВВП Беларуси понемногу «раскочегарился». Следовательно, с ростом сравниваемой базы прошлого года темпы увеличения ВВП в текущем году будут все более скромными.

В марте экономика Беларуси показала худший результат по росту ВВП с начала года (4,1%).

О том, что динамика белорусского ВВП будет затухать, указывают и эксперты МВФ и Всемирного банка. По их мнению, в таком неизменном состоянии, в котором находится экономика Беларуси, по-прежнему зависимая от внешних факторов, ее рост не выпрыгнет за 3%. В то время как мировая экономика увеличивается не менее чем на 3–4% ежегодно. Надо помнить, что ВВП Беларуси за 2015–2016 годы в долларовом эквиваленте обвалился более чем на 30%. И, чтобы выйти на рубежи ВВП 2014 года, белорусской экономике следует прибавлять по 6–8% каждый год.

А как прибавлять, когда почти все крупные предприятия Беларуси выплачивают гигантские долги? К 1 марта крупные и средние предприятия Беларуси направили на погашение кредитов и займов 8,4 млрд рублей. Больше всех кредиторам должны предприятия промышленности – 39,3 млрд рублей. Среди предприятий промышленности по сумме долгов лидирует пищепром (7,4 млрд руб.), деревообработка и целлюлозно-бумажные предприятия (6,7 млрд руб.) и машиностроение (4 млрд руб.). Белорусские НПЗ с начала года попали в зону убытков в связи с ростом цен на российскую нефть и нагрузкой программы модернизации. Не выбирается из убытков и МАЗ, БМЗ живет на финансовой подпитке государства. О сельском хозяйстве и говорить не приходится…

Во втором квартале ситуация с закредитованными и перекредитованными белорусскими предприятиями и компаниями вряд ли улучшится. Поленьев в костер долгов может подбросить и девальвация белорусского рубля: валютная долговая нагрузка, выраженная в рублях, наверняка вырастет. Риски последующих обвалов российского рубля никуда не исчезли, санкции против России продлеваются и наверняка могут быть усилены, особенно со стороны США…

Наращивать вал, не обращая внимания на финансовые показатели субъектов хозяйствования, чревато неприятными последствиями.

Внешний госдолг в расширенном определении (с учетом выданных правительством гарантий) составил на начало 2018 года 24,97 млрд долларов, или 45,9% к ВВП. Не вышло и с зарплатой в 1000 рублей за март месяц. Так, по данным официальной статистики, средняя зарплата профессорско-преподавательского состава составляет не менее 1200 рублей. Профессор же на ставку получает в районе 1000 рублей. Стало быть, весь преподавательский состав вузов от ассистента до профессора работает на полторы ставки, да еще в разных местах!

Одним словом, рано радоваться успехам…

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

## Андрэй САННІКАЎ:
# «Эміграцыя – самае складанае рашэнне ў маім жыцці»

*Экс-кандыдат у прэзідэнты распавёў "Народнай Волі" пра жыццё за мяжой і магчымае вяртанне ў Беларусь.*

**З ДАВЕДКІ**

*У 2010 годзе Андрэй Саннікаў балатаваўся ў прэзідэнты, але ў выніку патрапіў за краты. Палітык быў асуджаны па крымінальнай справе аб масавых беспарадках у Мінску 19 снежня 2010 года. Яго прыгаварылі да 5 гадоў пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму, жонку Саннікава – Ірыну Халіп – да 2 гадоў пазбаўлення волі з адтэрміноўкай выканання пакарання на два гады.*

*У красавіку 2012 года экс-кандыдат у прэзідэнты быў вызвалены пасля таго, як напісаў прашэнне аб памілаванні на імя Аляксандра Лукашэнкі. Праз кароткі час пасля гэтага Андрэй Саннікаў з'ехаў за мяжу і атрымаў палітычны прытулак у Вялікабрытаніі, дзе знаходзіцца да гэтага часу.*



**– Андрэй Алегавіч, зараз Камітэт ААН па правах чалавека прыняў рашэнне, у якім сказана, што вы сталі "ахвярай незаконнага пазбаўлення волі", але скарга была пададзена яшчэ ў 2012 годзе…**

– Разгляд скаргі на самай справе быў доўгім і, як бачым, зацягнуўся аж на 6 гадоў. Я вёў перапіску з Камітэтам ААН, у 2015 годзе мне паведамілі, што рашэнне гатова. Але агучылі яго толькі зараз. Магчыма, з'явіліся нейкія тэхнічныя праблемы, бо ў ААН разглядаецца вялікая колькасць скаргаў з усяго свету. Хаця неафіцыйна мне казалі, што беларускія ўлады спрабавалі перашкодзіць прыняццю рашэння.

**– Для вас працэдура абскарджвання – справа прынцыпу?**

– Безумоўна, таму што мяне пазбавілі ўсіх правоў у Беларусі, і я не мог сабе дазволіць заставацца ў такім стане. А ў Канстытуцыі запісана, што міжнароднае права мае прыярытэт перад любымі законамі Рэспублікі Беларусь. І вось зараз Камітэт ААН па правах чалавека прызнаў, што я быў асуджаны незаконна. Дарэчы, гэты прэцэдэнт не толькі для мяне, але і для ўсіх тых, хто пацярпеў падчас снежаньскіх падзей 2010 года.

**– Калі вярнуцца да падзей васьмігадовай даўніны… Чаму тады склалася такая сітуацыя?**

– Па-першае, мы не чакалі, што ўлада так напалохаецца, што адразу ж у дзень выбараў пойдзе на разгон тых, хто прыйшоў на плошчу. Напэўна, у нас прысутнічала нейкая наіўнасць, што, маўляў, выстаім ноч, а затым ужо будзем думаць і пра наступныя крокі. Недзе спадзяваліся на з'яўленне нейкіх каналаў камунікацый з уладамі.

У краіне была дрэнная эканамічная сітуацыя, і мы пастаянна казалі падчас перадвыбарнай кампаніі, што дамоўленасці аб пачатку змен у Беларусі дапамогуць вырвацца з эканамічнай прорвы. А ўлады вырашылі ў гэтую самую прорву скокнуць. Усе ж мы памятаем, што ў 2011 годзе Беларусь была на мяжы дэфолту. Праўда, Крэмль выратаваў, але ці патрэбна нам такое выратаванне праз кабалу?

**– У 2012 годзе складана было прыняць рашэнне аб эміграцыі?**

– Гэта самае складанае рашэнне ў маім жыцці! Былі розныя сітуацыі ў Беларусі (і пагрозы, і іншае), але я заставаўся ў краіне. А ў 2012 годзе наступіў крытычны момант, і прыйшлося з'язджаць.

**– Наколькі ў псіхалагічным плане складана было адаптавацца да новых умоў жыцця на чужыне?**

– У маральным плане мне і сёння цяжка. Эміграцыя – выпрабаванне не з лёгкіх. Хаця, нягледзячы на тое, што знаходжуся за мяжой, усё роўна жыву тым, што адбываецца ў Беларусі. І не толькі жыву, але і працую ў гэтым накірунку.

**– А ці знаходзілі ў той момант аргументы, каб усё-такі застацца дома?**

– Застацца і адысці ад актыўнага палітычнага жыцця? Пры такім раскладзе, напэўна, можна было б і не з'язджаць. У адваротным выпадку ў спакоі мяне б не пакінулі. Таму, каб актыўна працаваць, вымушаны быў адправіцца за мяжу.

**– Некаторыя меркавалі, што вас выпусцілі на волю пад абяцанне абавязкова пакінуць краіну…**

– Поўнае глупства! Са мной такіх пагадненняў не было, і іх ні ў якім разе не магло быць. Пасля выхаду з-за кратаў мы з маім дарадцам Зміцерам Бандарэнкам далі прэс-канферэнцыю, пасля чаго праз дзяржаўныя СМІ зноў пачалі гучаць у наш адрас пагрозы: маўляў, як выйшлі з турмы, так туды зноў пойдзеце. Таму якія ў такой сітуацыі пагадненні?

**– А як ставіліся да тых, хто казаў: маўляў, Саннікаў заклікаў усіх на Плошчу, каб змагацца за светлую будучыню для Беларусі, а сам затым збег з краіны за мяжу?**

– Я заўсёды рабіў усё шчыра і працягваю рабіць так да гэтага часу. Я казаў, што на Плошчы буду да канца, і быў там да канца разам з усімі, хто прыйшоў. Я казаў, што не буду спрабаваць некуды саскочыць, і не зрабіў гэтага. І я ўпэўнены, што мы змянілі б сітуацыю, калі б нас не кінулі за краты. А вось чаму гэтым не скарысталіся тыя людзі на волі, якія называюць сябе лідарамі апазіцыі, я не ведаю.

**– Сёння няма адчування віны перад тымі, хто патрапіў пад рэпрэсіі падчас снежаньскіх падзей 2010 года?**

– Я сядзеў у турме і ведаў, за што сядзеў. Таму кожны чалавек робіць свой выбар сам. І калі нехта прыйшоў на Плошчу, то, напэўна ж, не для таго, каб мяне падтрымаць. Выйшлі тыя, хто хацеў нейкіх перамен. А да мяне могуць быць пытанні толькі ў маёй каманды і маёй сям'і. І тут я адчуваю сябе дастаткова ўпэўнена, таму што ніколі не грашу супраць ісціны.

**– Андрэй Алегавіч, а чым вы зараз займаецеся за мяжой? Ёсць нейкая сталая праца?**

– Я з'яўляюся адным з каардынатараў грамадзянскай кампаніі "Еўрапейская Беларусь", узначальваю міжнародную камісію Беларускага нацыянальнага кангрэса… Лічу сваёй задачай інфармаваць міжнародную грамадскасць пра рэальную сітуацыю ў Беларусі, пра парушэнні правоў чалавека. Працы хапае.

**– Няма планаў вярнуцца ў Беларусь, як гэта, напрыклад, зрабіў яшчэ адзін палітэмігрант і экс-кандыдат у прэзідэнты Алесь Міхалевіч?**

– Што тычыцца Міхалевіча, то там наогул нейкая дзіўная гісторыя з яго арыштам, бо ён жа гуляў на полі ўлады. Гуляў – і дагуляўся, я яму спачуваю.

А што тычыцца майго магчымага вяртання, то я лічу, што сёння больш карысці змагу прынесці за мяжой, а не ў турме.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ДЫЯЛОГ

# «Думалі, заглянём хвілін на 20, а дыскусія зацягнулася больш як на гадзіну»

*Днямі лідары правацэнтрысцкай кааліцыі: старшыня АГП **Анатоль Лябедзька,** старшыня руху "За Свабоду" **Юрась Губарэвіч** і сустаршыня аргкамітэта па стварэнні партыі "Беларуская хрысціянская дэмакратыя" **Віталь Рымашэўскі** – сустрэліся з міністрам працы і сацыяльнай абароны **Ірынай Касцевіч.***

Прадстаўнікі апазіцыі перадалі міністру свае прапановы наконт "антыдармаедскага" дэкрэта №3, пенсіённай сістэмы, а таксама дамовіліся перадаць праекты законаў «Аб адраснай дапамозе», «Аб роўных магчымасцях для жанчын і мужчын».

*– Засталіся самыя лепшыя ўражанні ад сустрэчы і ад міністра асабіста,* – падзяліўся сваімі назіраннямі Анатоль Лябедзька. *– Думалі, заглянём хвілін на 20, а дыскусія зацягнулася больш як на гадзіну.*

*Ірына Касцевіч – пісьменны міністр, бачна, што добра ведае праблематыку, сітуацыю ў вузкіх кірунках, ведае, што там адбываецца. Адстойвае сваё меркаванне. Але калі мы кажам, што трэба мяняць усю сістэму, што адно чапляецца за другое: занятасць – за незалежнасць судовай сістэмы, за законы, законы – за прадпрымальніцтва і г.д., – то тут у яе не вельмі добра атрымліваецца абмяркоўваць… Зразумела, што бачанне сітуацыі ў нас рознае: мы лічым, што трэба мяняць усю сістэму кіравання краінай, а ўлада выступае за тое, каб яе захаваць і паляпшаць. Але гэта не азначае, што мы не можам разам абмяркоўваць канкрэтныя рэчы, якія тычацца нашых людзей. Напрыклад, адрасную дапамогу. І калі мы запыталіся ў лоб "Адрасная дапамога – гэта ўчасткі ў Драздах за паўмільёна долараў?", міністр пачырванела. Не ведаю, ці будуецца ў Драздах Касцевіч, але было бачна, што ёй стала няёмка.*

Што тычыцца правацэнтрысцкай альтэрнатывы "дармаедскім" дэкрэтам, якая легла на стол міністра працы, то яна ўтрымлівае больш за 70 пунктаў. На сайце АГП яны ўсе выкладзены. Дакумент аб'ёмны, у ім выказваюцца прапановы, як папярэдзіць сацыяльнае ўтрыманства з улікам цяперашняга стану эканомікі краіны, яе рынку працы і знешніх выклікаў і пагроз.

*"Калі казаць пра адрасную падтрымку,* – заўважае Лябедзька, *– гэта не размазваць тонкім слоем па ўсіх, а аказваць дапамогу толькі тым, хто сапраўды мае ў ёй патрэбу. Законапраект прадугледжвае пераход выключна на грашовую форму сацыяльнай падтрымкі грамадзян на падставе ўстаноўленых крытэрыяў".*

У сваю чаргу Віталь Рымашэўскі, які рыхтаваў блок, датычны пенсіённай рэформы, ад сустрэчы з Ірынай Касцевіч не ў захапленні:

*"Вынік сустрэчы з міністрам працы: больш за гадзіну ветлівых дыскусій і ніводнага прамога адказу,* – кажа Рымашэўскі. *– Пытаемся:*

*– Ці падтрымаеце вы пенсіённую рэформу?*

*– У гэтым кірунку трэба рухацца…*

*– Ці будзеце ўносіць у пенсіённы стаж догляд за інвалідамі, дэкрэт, службу ў войску?*

*– А хто будзе плаціць за гэтых людзей унёскі ў Фонд сацыяльнай абароны?*

*І гэтак далей…*

*Паглядзім на афіцыйныя адказы…"*

ДАРЭЧЫ

# Вярнуць пенсіённы ўзрост для мужчын

Што тычыцца непасрэдна прапаноў правацэнтрысцкай кааліцыі адносна пенсіённай рэформы, то яны наступныя:

1.Унесці ў страхавы стаж перыяд праходжання ваеннай службы; перыяд атрымання дапамогі па абавязковым сацыяльным страхаванні ў перыяд часовай непрацаздольнасці; перыяд догляду аднаго з бацькоў за кожным дзіцём да дасягнення ім узросту трох гадоў; перыяд атрымання дапамогі па беспрацоўі; перыяд утрымання пад вартай асоб, неабгрунтавана прыцягнутых да крымінальнай адказнасці, неабгрунтавана рэпрэсаваных і пасля рэабілітаваных, і перыяд адбыцця пакарання гэтымі асобамі ў месцах пазбаўлення волі і высылкі; перыяд догляду інваліда І групы, дзіцяці-інваліда або асобы, якая дасягнула ўзросту 80 гадоў; перыяд праходжання альтэрнатыўнай (невайсковай) службы.

2. Наладзіць з дапамогай дзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі кампанію па абмеркаванні ў грамадстве розных прапаноў па рэфармаванні пенсіённай сістэмы.

3.Забяспечыць аднолькавы ўзровень працоўных пенсій для ўсіх катэгорый грамадзян незалежна ад іх былога сацыяльнага статусу.

4. Стварыць назапашвальны (страхавы) пенсіённы фонд і адкрыць у ім страхавыя індывідуальныя рахункі для кожнага грамадзяніна Рэспублікі Беларусь.

5.Перадаць у назапашвальны (страхавы) пенсіённы фонд не менш за 25% акцый дзяржпрадпрыемстваў і 25% сродкаў ад прыватызацыі дзяржаўнай маёмасці і інвеставаць гэтыя сродкі ў прыбытковыя прадпрыемствы.

6.Вярнуць агульны ўзрост выхаду на пенсію для мужчын – 60 гадоў.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

ФІНАНСЫ

# Новыя правілы выдачы крэдытаў

*З мая ў Беларусі пры выдачы крэдытаў пачынае дзейнічаць норма, якая закранае разлік паказчыкаў забяспечанасці крэдыту і пазыковай нагрузкі.*

Пры выдачы крэдыту на фінансаванне нерухомасці і на спажывецкія патрэбы банк пры ацэнцы крэдытаздольнасці заяўніка – фізічнай асобы мусіць улічваць некалькі паказчыкаў. Гэта паказчык забяспечанасці крэдыту (ПЗК), які характарызуе суадносіны сумы крэдыту з коштам аб'екта нерухомасці, які прымаецца ў заклад у якасці забеспячэння або іншага забеспячэння ў адпаведнасці з дамовай (павінен разлічвацца пры выдачы крэдытаў на фінансаванне нерухомасці).

Другая норма – паказчык пазыковай нагрузкі (ППН), які характарызуе суадносіны памеру штомесячнага плацяжу па крэдытах з сярэднямесячным прыбыткам крэдытаатрымальніка (павінен разлічвацца пры выдачы крэдытаў на спажывецкія патрэбы).

Інструкцыя Нацбанка вызначае, што ППН не павінен перавышаць 40%, а ПЗК – 90%. Пры перавышэнні гэтага значэння запазычанасць па такіх крэдытах мусіць складаць не больш за 10% ад агульнай сумы.

Пры гэтым інструкцыя не змяшчае норм, якія абмяжоўваюць выдачу крэдытаў заяўніку (крэдытаатрымальніку), які мае пратэрмінаваную запазычанасць па раней выдадзеных крэдытах.

АФІЦЫЁЗ

# З міністрам сам-насам

*Кіраўнікі міністэрстваў і ведамстваў правядуць у маі асабістыя прыёмы грамадзян.*

Міністр архітэктуры і будаўніцтва **Анатоль Чорны** правядзе прыём 11 мая, міністр працы і сацыяльнай абароны **Ірына Касцевіч** – 16 мая.

Старшыня Дзяржаўнага ваенна-прамысловага камітэта **Алег Двігалёў** сустрэнецца з грамадзянамі і юрыдычнымі асобамі ў Саўміне 18 мая, міністр адукацыі **Ігар Карпенка** – 23 мая.

На 25 мая запланаваны прыём грамадзян міністрам спорту і турызму **Сяргеем Кавальчуком**, а на 30 мая – міністрам фінансаў **Уладзімірам Амарыным**.

Прыём праводзіцца з 10.00 па адрасе: **вул.Савецкая, 9, пакой 103**, кантактныя тэлефоны: **8 (017) 222-65-09, 222-63-69.**

Асабісты прыём міністрамі і старшынямі дзяржаўных камітэтаў ажыццяўляецца па папярэднім запісе.

ЭКОНОМИКА

## Станислав БОГДАНКЕВИЧ:
# «Цены у нас по-прежнему растут!»

*Не так давно А.Лукашенко заявил о том, что в этом году инфляция по стране должна быть 5–6 процентов. «А в следующем – 4–5 процентов. Мы должны выйти на 3–4 процента к концу пятилетки».*

*Экс-глава Нацбанка **Станислав Богданкевич** считает, что задача поставлена правильная.*



– Весь цивилизованный мир имеет 2–3 процента, так что 3–4, о которых говорит Лукашенко, – вполне нормальное желание, – *уверен Станислав Богданкевич*. – И это достижимые цифры. Если не будут административно увеличивать уровень заработной платы и пенсий, если будет жесткий контроль за денежной массой, то все может получиться. Есть африканские и азиатские страны, которые имеют низкую инфляцию. И не обязательно это экономически развитые страны.

Если денежно-кредитная и бюджетная политика жесткие, если будет поддерживаться определенный уровень конкуренции на рынке, эта цель может быть обеспечена. Другой вопрос, насколько поставленная задача совпадает с белорусской реальностью, потому что Лукашенко всегда заставлял создавать пустые деньги и бросать их в экономику. Изменится ли что-то сейчас – как говорится: поживем – увидим.

Хотя цены-то у нас по-прежнему растут! Мне об этом жена говорит каждый раз, как из магазина возвращается…

ЧАСТНАЯ ЖИЗНЬ

# Вице-премьер Анатолий Калинин – сват Станислава Богданкевича?

*Правда ли, что один из сыновей экс-главы Нацбанка женат на дочке вице-премьера Анатолия Калинина?*

*С таким вопросом в редакцию на днях обратился один из читателей газеты.*

*"Народная Воля" уточнила этот приватный момент у Станислава Богданкевича.*

*– Мой средний сын Антон действительно женат на Елене Калининой*, – ответил Станислав Антонович. *– У него второй брак. Моя невестка из Слуцка, никакого отношения к вице-премьеру Анатолию Калинину их семья не имеет, обычное совпадение фамилий.*

Кстати, старший сын Станислава Богданкевича Эдуард – отец пятерых детей.

*– Правда, от трех жен*, – улыбается Станислав Антонович. *– Внуки у меня просто прекрасные! У меня полно наследников, даже правнуки есть: Степан и Ульяна.*

Младший сын экс-главы Нацбанка Павел пока не женат. Ему скоро будет 23 года.

*– Рановато еще жениться, я так думаю*, – считает Богданкевич. *– Хотя сыновья со мной в этой вопросе не советовались. Они у меня очень самостоятельные. И я рад, что у меня хорошие отношения с детьми. Правда, время бежит так быстро, что я, кажется, даже и не успел заметить, как они выросли…*

**Марина КОКТЫШ.**

ДЗЕ ГЭТА БАЧАНА...

# Экс-ідэолаг Замяталін учыніў скандал у «Еўраопце», бо яго, бачыце, абслужылі па-беларуску

Пра выпадак распавёў Ігар Кольчанка, дырэктар піяр-агенцтва Sette.

Канфлікт паміж незадаволеным пакупніком і прадаўшчыцай адбыўся ў «Еўраопце», які знаходзіцца ў гандлёвым цэнтры «Галерэя» на праспекце Пераможцаў. У гэтай краме касіры па змоўчанні звяртаюцца да кліентаў па-беларуску.

«Мужчына вельмі гучна пачаў абурацца і крычаць, нельга было не заўважыць. Яму не спадабалася, што прадавачка гаварыла з ім па-беларуску, – распавёў Ігар Кольчанка. – Ён пачаў крычаць на дзяўчыну: «Ды не хачу я гаварыць на вашай долбанай мове. Канстытуцыю пачытайце і адказвайце мне па-руску!»

Выявілася, што абураным пакупніком аказаўся Уладзімір Замяталін, былы галоўны ідэолаг краіны.

Праўда, сам Замяталін спачатку адмовіўся каментаваць сварку з прадаўшчыцай. «Не разумею, пра што вы кажаце. Ваша мова не беларуская, а стараруская. Хопіць мне хлусіць», – адказаў ён карэспандэнту «НН». Але пасля перазваніў сам і ўдакладніў сваю пазіцыю:

«Абслугоўваючы персанал павінен размаўляць на той мове, на якой да яго звяртаюцца. Паўсюль гэта норма. Увогуле, я не разумею, у чым шум і інтарэс. Нічога звышнатуральнага не адбылося».

Але ці адказваў ён па-беларуску, калі быў чыноўнікам? «Калі да мяне звяртаюцца па-беларуску і я разумею, што кажуць, я адказваю па-руску. Калі не разумею, то так і кажу. Але вучыць мову ў 70 гадоў не збіраюся», – кажа экс-ідэолаг.

Замяталін запэўнівае, што яму падабаецца беларуская культура, і ніякай пыхі ў яго няма. «Але ёсць праўда гісторыі», – падсумоўвае ён.

Сёлета Уладзіміру Замяталіну спаўняецца 70 гадоў. Ён родам з расійскай Тулы, скончыў Данецкае вышэйшае ваенна-палітычнае вучылішча, пасля служыў у войску палітруком у Германіі, на Далёкім Усходзе. У выніку лёс занёс Замяталіна ў Беларусь, дзе ён узначаліў прэс-службу Мінабароны. Меў званне палкоўніка.

Затым Замяталін быў прэс-сакратарам Савета міністраў, віцэ-прэм'ерам, а таксама намеснікам кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта, адказным за ідэалогію. Пры часе яго кіравання ціск на беларускую культуру быў наймацнейшым.

Напрыканцы кар'еры Замяталін узначальваў «Беларусьфільм», фігураваў як прадзюсар некалькіх беларуска-расійскіх фільмаў на ваенную тэматыку: «Брэсцкая крэпасць», «У чэрвені 41-га», «Снайпер: зброя адплаты».

("НН".)



ЗНАЕТЕ ЛИ ВЫ, ЧТО...

## Кебич присвоил, Лукашенко отменил

Одним из последних решений премьер-министра Вячеслава Кебича было присвоение генеральских званий и назначение генеральских пенсий ряду лиц, генералами не являвшихся и соответствующих постов в армии не занимавших. Одним из них был Владимир Заметалин, решение о назначении генеральской пенсии которому было отменено Александром Лукашенко. Впрочем, не исключаем, что сейчас Владимир Петрович получает назначенную президентом пенсию «за особые заслуги».

## Не он ли заказчик фильма «Дети лжи»?

По слухам, именно Владимир Заметалин в должности начальника управления Администрации президента заказывал производство фильма «Дети лжи», в котором посредством использования нехитрого приема монтажа белорусская оппозиция была представлена прямыми наследниками фашистов. Вероятно, впечатление от этого «кино» так запало в душу президента, что последним государственным назначением Заметалина стала должность директора «Беларусьфильма».

## Преследователь Некляева

Заметалин был инициатором преследования Владимира Некляева, возглавлявшего тогда Союз белорусских писателей. Хотя все заметалинские инсинуации по поводу злоупотреблений, якобы имевших место в журнале "Крыніца", который долгое время редактировал Некляев, не подтвердились, поэт удалился в добровольное изгнание, и шансы на примирение главы государства с творческой интеллигенцией были исчерпаны. Зато Некляев вернулся с новым сборником стихов и великолепной поэмой «Паланэз».

## Недовоспитал сына

В 2015 году сын Владимира Заметалина Денис был осужден на 5 с половиной лет лишения свободы с конфискацией имущества за незаконное занятие предпринимательской деятельностью. Отца, конечно, жалко, но показательно: человек, воспитывавший и продолжающий (судя по последнему инциденту) воспитывать других, не слишком преуспел в воспитании собственного сына в духе законопослушания.

100 РАДКОЎ

Міхася СКОБЛЫ



# Адстаўная арда

Чакаючы сына ў вестыбюлі адной са сталічных беларускамоўных гімназій, я аднойчы міжволі стаў сведкам антыпедагагічнай, на мой погляд, дзеі. Выхаваныя гімназісты, вучні пачатковых класаў, перад дзвярыма звонка шчабяталі свае "да пабачэння", а пры тых жа дзвярах моўчкі сядзеў насуплены ахоўнік сталага веку. Дзеткі ўсё шчабяталі, ахоўнік усё маўчаў, і я не вытрымаў. Падышоў і як мага культурней зрабіў заўвагу: маўляў, нельга так паводзіцца, вы ж працуеце ва ўстанове адукацыі. Ахоўнік зірнуў на мяне непрыхавана варожа і гучна, на ўвесь вестыбюль, заявіў: *"Я бывший советский офицер и не должен на старости лет засорять мозги вашей белорусской мовой!"* Шануючы чытачоў, я цяпер трохі падрэдагаваў тую заяву – у арыгінале ў дзеяслове замест літары "о" прагучала "и". І гэта перад дзеткамі, якія ў вестыбюлі чакалі бацькоў…

Стрымаўшы эмоцыі, я падняўся на другі паверх і зайшоў у кабінет дырэктаркі. Яна выслухала мяне з алімпійскім спакоем на твары і паабяцала разабрацца. І разабралася. Ахоўнік па прозвішчы Маёраў, былы вайсковец, неўзабаве быў звольнены. За неадпаведнасць службоваму становішчу ці з нейкай іншай фармулёўкай – гэтага я не ўдакладняў. Насамрэч – за зняважлівыя адносіны да дзяржаўнай беларускай мовы.

Той выпадак у гімназіі прыгадаўся мне днямі, калі былы высокапастаўлены чыноўнік Уладзімір Замяталін учыніў скандал у "еўраоптаўскай" краме, дзе яго абслужылі на касе па-беларуску. Паводле слоў відавочцаў, колішні віцэ-прэм'ер і галоўны ідэолаг лямантаваў на ўсю краму: "Не хочу я разговаривать на вашем долбаном языке!" Зразумела, ніхто яго да гэтага не змушаў, проста агалцелыя беларусафобы (заўважана неаднойчы) падобным чынам рэагуюць на любое выказванне па-беларуску ў іх прысутнасці.

Учынак Замяталіна выклікаў хвалю абурэння ў электронных СМІ і сацыяльных сетках, што – і гэта паказальны факт – выклікала здзіўленне ўжо з боку самога скандаліста. Маўляў, я не разумею, з-за чаго шум, нічога ж незвычайнага не адбылося. Гэта значыць, падобныя выказванні для Замяталіна – норма, проста ў "Еўраопце" ягоны беларусаненавісніцкі дэмарш быў зафіксаваны. А вялікі розгалас ён набыў найперш таму, што крыклівы пакупнік у свой час кіраваў усёй ідэалагічнай і адукацыйна-культурніцкай сферай у нашай краіне. Быў намеснікам кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта, намеснікам старшыні ўрада, старшынёй Дзяржаўнага камітэта па друку. І на ўсіх гэтых пасадах ён працаваў, трэба думаць, з устаноўкай, што "беларуская мова долбаная", што "беларуская нацыя – гістарычная памылка бальшавікоў" (апошняе выказванне прагучала яшчэ са службовага кабінета).

Большага дурноцця і ўявіць немагчыма – каб ідэалагічную палітыку ў беларускай дзяржаве даволі працяглы час вызначаў дзеяч, які фактычна не прызнаваў беларускай дзяржавы. Ну, калі дзяржаўная мова ў ёй "долбаная", а сам народ – чыясьці памылка…

Помніцца, пра гэты парадокс Генадзь Бураўкін неяк сказаў у вочы (я быў сведкам) таму, хто і прызначыў Замяталіна на ўсе вышэйназваныя пасады. Праходзіла сустрэча прэзідэнта з радай тады яшчэ адзінага Саюза пісьменнікаў, ініцыяваная яго тагачасным кіраўніком Уладзімірам Някляевым. Генадзь Мікалаевіч аргументавана давёў, што далей так працягвацца не можа, што Замяталін (прысутны на сустрэчы) наносіць вялікую шкоду нацыянальнай культуры.

Прызнацца, некаторыя пісьменнікі тады спадзяваліся, што чыноўнік, які дзе толькі мог нішчыў усё беларускае, тут жа атрымае выспятка пад зад і назаўсёды вылеціць і з рэзідэнцыі прэзідэнта, і з уладных кабінетаў. Але Аляксандр Лукашэнка без цені сумневу ўзяў тады свайго прызначэнца пад абарону і заявіў, што Замяталін ажыццяўляе яго, прэзідэнцкую, палітыку… Далей нешта даводзіць на той сустрэчы не мела сэнсу.

Пазней Генадзь Бураўкін напісаў "пазнавальны" верш, які пачынаўся радкамі:

*Знікае маўр, сваю зрабіўшы справу,*
*Як быццам бы яго і не было.*
*І акуляры з залатой аправай*
*Ужо не сеюць чорнае святло.*

Але герой таго верша яшчэ доўга рабіў сваю цёмную антыбеларускую справу і завяршыў кар'еру на пасадзе дырэктара кінастудыі "Беларусьфільм".

Здавалася б, ахоўнік-прыдзвернік у гімназіі і былы віцэ-прэм'ер – птушкі рознага палёту і з розных гнёздаў. Насамрэч вылецелі яны з аднаго гнязда – Савецкай арміі, абодва афіцэры-адстаўнікі, абодва аселі ў талерантнай Беларусі, дзе можна, седзячы на службовым крэсле, зневажаць народ, які цябе корміць. Таварыш Маёраў і палкоўнік Замяталін – яскравыя прадстаўнікі той адстаўной арды, якая пасля развалу Савецкага Саюза прыжылася ў Беларусі, успрымаючы яе як частку "русского мира", з нецярпеннем чакаючы яго "воссоединения".

І такіх маёравых-замяталіных у нашай краіне – хоць гаць гаці. Толькі адзін Слонім у 1991 годзе быў вымушаны прыняць каля 15.000 былых савецкіх вайскоўцаў з Германіі. Прадстаўнікоў розных нацыянальнасцяў, але з адпаведным савецка-вайсковым светапоглядам. Цэлы мікраараён для іх пабудавалі. І што ж, за дваццаць пяць гадоў яны так і засталіся для сланімчан чужакамі.

А колькі беларускіх гарадоў апынулася ў становішчы Слоніма? Баранавічы, Ашмяны, Брэст, Гродна… І гэтая адстаўная арда не растварылася, не асімілявалася, яна патрабавала і патрабуе рускамоўных школ, савецкіх святаў, яна пратэстуе супраць беларускай мовы нават у "Еўраопце". І – "чакае з надзеяй на рускія танкі", як спяваецца ў папулярным "Народным альбоме".

Адстаўнікі з імперскімі замашкамі паводзілі б сябе больш асцярожна, калі б бачылі павагу да беларускай мовы з боку чыноўнікаў, кіраўнікоў дзяржавы. Павагу не галаслоўную, а відавочную. Але яны яе не бачаць. Па ўсёй уладнай вертыкалі – зверху данізу. А калі з боку ўлады ідзе такая ігнарацыя, то навошта і ім гэтай "долбанай" мовай "засорять" (рэдагаваны варыянт) мазгі?

Хоць, як выглядае, засмечваць там асабліва няма чаго…



Уладзімір НЯКЛЯЕЎ

# «Пацалуй за мяне КДБ»

Раз-пораз усплывае, як адзін адпрацаваны прадукт, імя Уладзіміра Замяталіна. І кожны раз у звязку з не надта прыгожымі, мякка кажучы, рэчамі. То з карупцыяй на "Беларусьфільме", то з крыміналам у бізнесе, які "палкоўнік Пятровіч" (мянушка Замяталіна) пакінуў сыну, то са зняважай беларускай мовы: "долбаный язык".

Пытанне не ў тым, чаму ён так сказаў. Ён – беларусафоб, ненавіснік усяго беларускага, пра што я публічна заяўляў яшчэ тады, калі Замяталін быў віцэ-прэм'ерам. Пытанне ў тым, чаму ён увогуле лічыць магчымым казаць такое пра беларускую мову ў Мінску, у Беларусі. У Варшаве, у Польшчы пра польскую мову ён такое сказаў бы?.. Ды і ў Кіеве пра ўкраінскую мову не асмеліўся б гэтак сказаць, бо пачуць мог які-небудзь "бандэравец" ці "правасек" – і быў бы Уладзіміру Пятровічу кірдык на тым самым месцы, дзе ён разявіў рот. А тут ні "бандэраўцаў", ні "правасекаў" – толькі "тутэйшыя". І прэс-сакратар "Еўрагандлю", колішні вядоўца Беларускага тэлебачання, змушаны дыпламатычна тлумачыць, што прэтэнзіі "пакупніка Замяталіна" не ва ўсім апраўданыя. То бок беларуская мова не зусім "долбаная".

Чаму так? Бо ў нас замяталінская краіна – вось чаму так. Не купалаўская, не коласаўская і нават не лукашэнкаўская, а замяталінская. І баль тут правіць не беларушчына, а замяталіншчына, у якой тутэйшчына, найперш наша дзяржаўная тутэйшчына, – на паслугах.

Што яна такое, тутэйшчына? Яна, тутэйшчына, – халопства. Асутнасць адчування нацыянальнай годнасці. Ва ўсім. І выяўляецца гэта найперш менавіта ў мове, культуры. У тым, што адразу пазначае цябе, паказвае, хто ты насамрэч ёсць. І якімі, чыімі могуць быць мова з культурай у халопаў? Толькі панскімі. Калі тут палякі – польскімі, калі тут рускія – рускімі. А гэта ўжо халопская палітыка. І ўся наша дзяржаўная тутэйшчына, якая грэбуе сваім, была і застаецца праз тое халопскай. Яе міністры, старшыні, начальнікі толькі выдаюць сябе за міністраў, старшыняў, начальнікаў, застаючыся халопамі. Таму ў большасці сваёй яны нават не верныя лукашэнкаўцы, а верныя замяталінцы. Прадукт, які ўсплывае...

**P.S.** Калі ў 1999 годзе я змушаны быў з'ехаць з Беларусі, даслаў з Варшавы Замяталіну (палкоўніку Пятровічу) песеньку.

*По роскошной Варшаве гуляю*
*В тополином июньском снегу.*
*Заметаю тебя, заметаю*
*И никак замести не могу.*

*Руки в брюки, кепчонку на брови,*
*Сигаретка дымит на губе…*
*До свиданья, полковник Петрович,*
*Поцелуй за меня КГБ.*

Вось жа колькі часу прамінула, а ўсё не замятаецца… І цалуецца з беларускім КДБ.

ПРЯМАЯ РЕЧЬ



Станислав ШУШКЕВИЧ

# «Жулик, фальсификатор и негодяй»

*Станислав Шушкевич тоже вспоминал о Владимире Заметалине в своей книге, причем весьма нелестно.*

– Заметалин заказал известному российскому журналисту Александру Проханову написать на меня пасквиль, – *напомнил Шушкевич «Народной Воле»*. – Это была так называемая «голландская утка». Якобы перевод несуществующей публикации из несуществующей голландской газеты тогда по распоряжению Заметалина напечатали почти все белорусские газеты. Написали на меня тогда всякую ерунду, ни слова правды там не было.

О том, как появилась эта публикация, мне уже позже рассказал журналист Игорь Осинский.

Заметалин – большой жулик и фальсификатор.

Когда он приходил на заседания Верховного Совета, я всегда говорил: надо удалить этого негодяя из помещения, потому что такие люди не должны присутствовать в приличном месте. Но Кебич его всегда защищал, они были в паре…

ТОЧКА ЗРЕНИЯ

# «Долбаный» язык идеологии

Случился скандал, откуда не ждали. Бывший главный идеолог страны (как пел Высоцкий – «бывший лучший, но опальный стрелок») Владимир Заметалин негативно высказался о белорусском языке в беседе с кассиром «Евроопта», которая к нему по-белорусски обратилась. Цитирую то, что осело в интернете: «Да не хочу я говорить на вашем долбаном языке. Конституцию почитайте и отвечайте мне по-русски!»

Потом, как утверждает газета «Наша Ніва», Владимир Петрович перезвонил в редакцию и высказался в следующем духе: «Обслуживающий персонал должен разговаривать на том языке, на котором к нему обращаются. Повсюду это норма. Вообще, я не понимаю, в чем шум и интерес. Ничего сверхъестественного не произошло».

Сказанное Владимиром Петровичем, судя по всему, не вполне соответствует истине. Как правило, кассир первой обращается к покупателю – если, конечно, тот недостаточно воспитан и не здоровается с женщиной, сидящей за кассовым аппаратом. А это означает, что отвечал он, а не она. Отвечал. И – да, он вправе отвечать на том языке, на котором захочет. Но и она вправе была обратиться к нему на ЛЮБОМ из государственных языков. Обратилась на белорусском, что, с моей точки зрения, делает ей честь.

Проблема не в языке. Проблема в том, что гражданку Республики Беларусь отставной одиозный чиновник считает всего лишь «обслуживающим персоналом». И вот здесь мне хочется задать вопрос, как говорится, залу.

А был ли хотя бы один случай, когда находившийся при исполнении служебных обязанностей чиновник Заметалин ответил по-белорусски человеку, который обратился к нему на белорусском языке? Ведь есть, несомненно, те, кто это делал, – писатели, например. Тот же Владимир Некляев. Ведь как раз применительно к писателям Владимир Заметалин находился в положении «обслуживающего персонала». Чиновники – всего лишь обслуживающий персонал, поскольку единственным сувереном нашего государства был и остается народ Республики Беларусь. И когда чиновник находится при исполнении служебных обязанностей, он – обслуживающий персонал. Не более.

Боюсь, таких прецедентов не было, хотя с радостью признаю, что я ошибался, если кто-нибудь заявит: да, Владимир Заметалин владеет обоими государственными языками и со мной пятнадцать минут непринужденно общался на белорусском. Но дело в том, что Заметалин даже тогда не считал себя обслуживающим персоналом. Он считал, как я не раз убеждался, себя лицом, которое вправе диктовать и регламентировать. Он – а не президент, не парламент, не народ. Он. Идеолог. Верховный идеолог.

А обслуживающим персоналом для него были все мы. Остальные. Кто не укладывался в его идеологическую схему. И это отношение к людям Владимир Петрович, как видите, перенес на оставшуюся часть своей жизни – и на всех нас. Республика Беларусь после его отставки, вероятно, имеет право на существование лишь постольку, поскольку обслуживает его интересы и выплачивает ему пенсию. Случись завтра так, что под влиянием этого скандала гражданин Заметалин откажется от своего гражданства и уедет – ну, например, к пингвинам в Антарктиду, если там ему предоставят гражданство, – то Беларусь автоматически, надо полагать, лишится в его глазах этого права, и он будет, я уверен, радостно приветствовать ее ликвидацию.

Он нахамил кассиру не на русском языке. Он нахамил девушке на долбаном языке идеологии, которой служил всю свою сознательную жизнь. На языке национального нигилизма. На языке, отрицающем существование всего, что непонятно идеологу, а потому враждебно ему. В девушке, которая вдруг заговорила по-белорусски (в Беларуси!), Владимир Заметалин почувствовал приближение той «языковой реформы», которая как раз этот язык и ликвидирует. Языку Лермонтова, Толстого, Чехова, Булгакова, Алексиевич в Беларуси ничего не угрожает. А языку Заметалина – угрожает. Долбаному языку идеологии, порожденному тоталитарной системой и уходящему по мере того, как ее остатки отмирают то на одном, то на другом осколке бывшего «союза нерушимого», распавшегося, как мы помним, в одночасье. И когда империя, цеплявшаяся за жизнь под видом «добровольного союза», отомрет, Заметалин и заметалины останутся без языка.

И, вы знаете, мне их не будет жалко. Тех, кто так и не сумел стать государственными деятелями, оставшись навсегда плохо исполнявшим свои прямые обязанности обслуживающим персоналом.

**Александр ФЕДУТА**

УСПАМІНЫ

# АКУПАЦЫЯ

(чэрвень 1941 – ліпень 1944 г.)



Леанід ЛЫЧ, прафесар, доктар гістарычных навук

*Прысвячаю землякам-магілянам часоў вайны і нямецкай акупацыі.*

*(Працяг. Пачатак у №№ 31 – 35.)*

### Не здрадзілі клятве Гіпакрата

У гады вайны людзі гінуць не толькі ад варожай кулі. Як і ў мірны час, яны развітваюцца з жыццём з-за невылечнай хваробы, у выніку якога-небудзь няшчаснага здарэння. Не абмінула яно і адну з магілянскіх жанчын (імя і прозвішча не памятаю), калі па вуліцы мястэчка на поўным ходу мчалі наперад нямецкія аўтамашыны. Нягледзячы на наблізжэнне навальніцы, яна працягвала з матыкай у руках працаваць на сваёй сядзібе. І раптам бліснула маланка, моцна ўскалыхнуў паветра гром, і жанчына звалілася вобзем. Пачуўся крык:

– Людзечкі, ратуйце! Жанчыну маланкай забіла!

На крык збегліся людзі з суседніх хат. Што рабіць у час такога здарэння, ведалі, таму адразу пачалі капаць яму. Ад аднаго з тых выратавальнікаў пачулі, што ўжо не адну гадзіну ў Магільным адпачывае нямецкая аўтакалона, у якой ёсць і санітарная машына. Да месца знаходжання гэтай машыны хутка пабеглі хлапчукі і, як маглі, патлумачылі, што здарылася. Доктар тут жа выказаў гатоўнасць дапамагчы. Ён цалкам пагадзіўся з тым, што ахвяру навальніцы змясцілі ў яму, праверыў, ці б'ецца пульс, ці дыхае яна, а таксама зрабіў некалькі ўколаў. Магчыма, збіраўся і яшчэ штосьці выканаць, але прыбег на месца здарэння салдат і даў знак, што трэба збірацца ў дарогу. Доктар асабліва не спяшаўся, бо, відаць, хацеў пераканацца ў шчаслівым зыходзе лячэння. Тая жанчына выжыла і яшчэ пару дзясяткаў гадоў прабыла на гэтым свеце. Кажуць, што ад яе ні разочку не чулі праклёну на адрас немцаў (а яны ж, як будзе паказана ніжэй, заслугоўваюць яго нават ужо і за тое злачынства, што ўчынілі для саміх жыхароў Магільнага), хаця і хтосьці з яе родных, блізкіх не вярнуўся з вайны дамоў. Людзі даўжэй памятаюць добра, чым зло, і не мяняюць першае на другое.

### Патрапілі ў аб'ектыў кінакамеры

Рух нямецкіх войскаў праз Магільнае не заўсёды вызначаўся бесперапыннасцю, транзітным характарам. Хаця і рэдка, але некаторыя з іх маглі тут затрымацца на дзень альбо на цэлыя суткі. Такі даволі працяглы час адводзіўся не толькі для адпачынку пасля нядаўняга бою. Займаліся і іншымі справамі. Камандаванню адной з ваенных часцей, якая абрала Магільнае ў якасці прывалу, стала вядома, што ў мястэчку маюцца дзве зачыненыя на замок крамы з таварамі, завезенымі яшчэ перад вайной. Такі парадак не мог не здзіўляць, аднак усё ж немцы вырашылі пакласці яму канец. Людзей апавясцілі, што заўтра будуць бясплатна выдаваць усё, што маецца ў крамах. Даведаліся пра гэта і ў суседніх вёсках. Немцы аказаліся гаспадарамі свайго слова. Начавалі яны пад адкрытым небам у аўтамашынах, а хтосьці проста на зямлі, бо тэмпературныя ўмовы спрыялі гэтаму.

Раніца пачалася з пастраення салдат і ўручэння некаторым з іх ордэнаў і медалёў. Як мы заўважалі, ва ўзнагароджаных радасці не было канца. Пасля гэтага большасць салдат пайшла купацца на Нёман, а пяць-сем чалавек накіравалася да прамтаварнай крамы, дзе ўжо сабраўся вялікі натоўп мясцовых жыхароў у надзеі атрымаць штосьці патрэбнае для сябе. Як-ніяк ішла вайна, і кожны ведаў, што не так проста будзе здабыць сабе тую ці іншую рэч.

Не ведаю, па якой прычыне на тую дзяльбу не пайшлі мае бацькі. Я ж там прысутнічаў толькі ў ролі гледача, і было мне на што пагладзець. Бачыў, як рашуча адчынілася шырокае акно крамы, і на падаконнік узабраўся даволі рослы немец. Ззаду яго знаходзіўся з вялікімі ножнамі другі немец. Ён адразаў ад рулона кавалкі тканіны, якія з падаконніка кідалі ў людскі натоўп. Жаданне ўхапіць бясплатную здабычу аказалася ў людзей надзвычай вялікае. Немцы пільна сачылі, каб у руках каго-небудзь з найбольш увішных не апынулася два кавалкі матэрыі. Ледзь за сапраўднай бойкі не дайшло тады, калі з рук адной жанчыны пачалі вырываць матэрыю, тлумачачы гэта тым, што яна (жанчына) прыйшла з суседняй вёскі Галавачы. Для немцаў гэта не з'явілася важкім аргументам, і яны сталі на бок жанчыны (была яна з сынам), дапамаглі ёй выйсці з надзвычай актыўнага натоўпу і вывелі на вуліцу.

Увесь час, як раздавалі тканіну, няспынна працаваў кінаапарат. Так што са знятымі ім сцэнкамі, напэўна, пазнаёміліся ў Нямеччыне і залежных ад яе краінах шмат гледачоў. Вось толькі не вядома, ці патлумачылі ім, каму належалі тыя рулоны тканіны – савецкай краіне ці Трэцяму рэйху. Дзеля прапаганды больш выгадна было тую раздачу прыпісаць апошняму. Хутчэй за ўсё, так і зрабілі незаконныя гаспадары выраблenaй на савецкіх фабрыках тканіны.

### Магільнае не ведала людскіх страт

Як толькі пачалася вайна Германіі з СССР, савецкіх людзей пачалі заклікаць бязлітасна знішчаць ворага. У нас да такіх заклікаў неяк не прыслухаліся, хаця на момант уступлення нямецкіх войскаў у мястэчка ў ім жыло нямала камуністаў, дарослых камсамольцаў. Як высветлілася пазней, некаторыя з найбольш смелых, адданых бальшавізму людзей хавалі чырвонаармейцаў у сваіх хлявах, на гарышчах дамоў. Да надыходу халадоў некаторыя з чырвонаармейцаў пастаянна жылі ў лясах. Аднак прыцэльнага стрэлу ў бок ворага ніхто на зрабіў, што мо і на карысць пайшло мясцоваму насельніцтву, бо ў адваротным выпадку яго не пакінулі б беспакаранымі.

Аднаго салдата немцы страцілі ў Магільным, але па віне – не магу ўстрымацца ад цалкам заслужанага эпітэта – прыгажуна бацькі Нёмана. Пры першай нагодзе яны з вялікай ахвотай акуналіся ў яго празрыстыя воды, што мо было нехарактэрна для рэк Нямеччыны. Нам, дзецям, у гэты час было на што пагладзець і павучыцца, як трэба даваць нырца з берага, прыгожа і хутка плаваць. Аднойчы, уволю пабавіўшыся ў рацэ, не такая ўжо шматлікая група немцаў, як пачала адзявацца, недалічылася аднаго чалавека. Сумненняў не было: утапіўся. У ваду хуценька нырнулі тры ці чатыры плыўцы. Першая спроба не дала жаданага выніку, хаця кожны з іх доўга знаходзіўся пад вадой. Другая спроба аказалася ўжо выніковай. На бераг выцягнулі даволі дзябёлага тапельца. Ва ўсіх дачыненнях вельмі прафесійныя спробы вярнуць яго да жыцця сталіся марнымі. Занадта доўга ляжаў на дне ракі. Камандзір групы аблаяў амаль кожнага салдата, з вялікай злосцю трос кулакамі над іх галовамі, затым даў каманду адзець тапельца ў яго форму і аднесці ў машыну. У якім месцы выкапалі яму магілу (а можа неяк адправілі на радзіму), ніхто з нас не ведаў.

### Бяда напаткала яўрэяў

У Магільным пра лёс яго яўрэйскага насельніцтва ўсур'ёз загаварылі адразу ж пасля таго, як даведаліся пра першыя поспехі войскаў Вермахта і адступленне Чырвонай Арміі. Прадстаўнікі гэтага старажытнага народа, як засведчана ў літаратурных крыніцах, пасяліліся ў дадзенай мясцовасці прыкладна ў XVI стагоддзі. З тубыльскім насельніцтвам жылі ў згодзе, і таму ніхто не жадаў, каб яўрэі сталі ахвярай нямецкага акупацыйнага рэжыму. А так думаць мелася дастаткова падстаў, пра што добра паклапаціліся дэпартаваныя з Польшчы ў Магільнае яўрэі. Проста жахліва было чуць пра перанесеныя імі ад немцаў здзекі. У самага любімага намі, дзецьмі, дзядзькі Элі (ён беспамылкова вызначаў прозвішча кожнага з нас і імя бацькоў) у першыя ж дні вайны сталася штосьці няладнае з псіхікай. Ён перастаў выходзіць на вуліцу, сустракацца, весці размовы з людзьмі і, са слоў яўрэяў, толькі крычаў праз фортачку, што нам прыйшоў канец. Як на тую бяду, гэтае горкае прадказанне і сапраўды праз пэўны час спраўдзілася, прычым для ўсёй магільнянскай абшчыны яўрэяў, бо ніхто з іх не падаўся ў эвакуацыю.

Салдаты перадавых нямецкіх часцей, зразумеўшы, што Магільнае – гэта не якая-небудзь вёска, а мястэчка, усяляк стараліся ад мясцовых жыхароў беларускай нацыянальнасці даведацца, дзе ў ім жывуць яўрэі. Не ведаю, што адказвалі на такое пытанне, але на працягу трох-чатырох дзён руху нямецкіх войскаў па вуліцах мястэчка не было засведчана ніводнага канфлікту на гэтай глебе. Заслуга тут і саміх яўрэяў, якія не толькі не паказваліся на вуліцах, але стараліся ў месцах свайго пражывання знаходзіцца ў самых патаемных закутках. А вось што датычыцца беларусаў з някрка акрэсленым для іх нацыянальнасці абліччам, тут праблемы ўзнікалі і з вялікай цяжкасцю вырашаліся на карысць вызначанай фашыстамі ахвяры.

Першым з магільнянскіх яўрэяў, што трапілі ў няміласць пераможцаў, стаў усімі намі любімы дырэктар мясцовай сярэдняй школы Самуіл Бэркавіч Добкін (1906 г.н.). Прырода аказалася неласкавай да яго: быў гарбаты, што, праўда, ніколькі не ўплывала на стаўленне да гэтага добрага, справядлівага чалавека як з боку школьнікаў, так і дарослых. Як і многія дзеці, я цэлымі днямі сядзеў на прызбе сваёй хаты і сачыў за рухам нямецкіх войскаў, дзівячыся з іх сучаснага магутнага ўзбраення, чаго не даводзілася бачыць пры панічных уцёках Чырвонай Арміі. Надышоў час абеду, і я падаўся ў хату. Не паспеў сесці за стол, як з вуліцы пачуў моцныя крыкі. Глянуўшы ў акно, што выходзіла на вуліцу, убачыў, як немцы, паваліўшы дырэктара школы на зямлю, б'юць яго нагамі. Я разгубіўся і не ведаў, што рабіць. Добра, што ў гэты час была ў хаце маладзейшая за мяне на адзін год сястра Ада. Расла яна вельмі смелай, адважнай, лёгка ўваходзіла ў кантакт з усімі, у тым ліку і з дарослымі людзьмі. Убачыўшы, што вычвараюць на вуліцы немцы, яна імгненна кінулася ў самы цэнтр падзеі і на ўсё горла закрычала:

– Што вы робіце?! Гэта ж дырэктар нашай школы! Ці ж вы не бачыце, што ён яшчэ і калека?

На крык Ады збегліся мая старэйшая за мяне на два гады сястра Ліда, з суседніх дамоў – яшчэ старэйшыя за яе Зіна, Ніна і Ларыса. Немцы, відаць, не чакалі такой бурнай рэакцыі, прычым з боку моладзі ды яшчэ жаночага полу, і спынілі сваю гнюсную экзекуцыю. Акрываўленага дырэктара школы пасадзілі на лаўку супрацьлеглага нашаму дома, і дзяўчаты сталі мараляй, чыстымі белымі льнянымі анучачкамі выцірыць ад крыві твар. Неўзабаве, саскочыўшы з аўтамашыны, падышоў да нас немец і пальцам паказаў, што збітую да крыві ахвяру лепш аднесці, схаваць на двары, што мы і зрабілі. А як толькі сцямнела ды на нейкі час спыніўся рух нямецкіх аўтакалон, мы на калясцы адвезлі дырэктара дахаты. Якім пасля ўчыненых пабояў было ў яго здароўе, мне не вядома, але ён застаўся ў жывых і разам з усімі сваімі суплямённікамі ў вялікім страху чакаў суднага дня.

*(Працяг у наступных нумарах.)*

ЗАКУЛІССЕ

# Арт-махляры падробліваюць карціны Андрэя Смаляка

*Не так даўно на старонцы вядомага беларускага мастака Андрэя Смаляка ў "Фэйсбуку" з'явілася паведамленне:* ***"Сябры, увага! Сталі нярэдкімі выпадкі падробкі маіх работ. Працуюць махляры. Будзьце ўважлівыя! Бывае, падрабляюць сюжэты з маіх карцін, а бывае, проста на чужых карцінах ставяць мой подпіс".***

*"Народная Воля" высветліла, за колькі прадавалі карціну з фэйкавым аўтографам аднаго з самых дарагіх беларускіх мастакоў.*

### «Арт-шэдэўр» са Ждановічаў

– Мне патэлефанаваў знаёмы і радасна паведаміў: маўляў, яму вельмі пашанцавала – на "Полі цудаў" у Ждановічах набыў працу Андрэя Смаляка, – *распавёў "Народнай Волі" бард, мастак і калекцыянер* ***Андрэй Плісанаў***. – Ва ўсялякім выпадку на карціне стаіць подпіс мастака і пазначаны год, калі яна была створана. Мой таварыш вырашыў, што выйграў у латарэю, бо Смаляк – вядомы і дарагі мастак, а карціна яму дасталася, па сутнасці, бясплатна – заплаціў усяго некалькі дзясяткаў долараў. Я патэлефанаваў Андрэю і спытаўся, ці ягоная гэта праца. Мастак сказаў, што не. Падробка!

**– Вядома, што фальсіфікацыя жывапісу вядомых творцаў – някепскі бізнес. Але я не чула, каб падробвалі працы сучасных беларускіх мастакоў. Можа, вы ведаеце такія гісторыі?**

– Шчыра кажучы, не. Але быў выпадак, калі ў Свіслачы ўзімку знайшлі карціну, якая ўмерзла ў лёд. Відаць, нехта кінуў яе ў ваду, але яна далёка не сплыла, зачапілася недзе ля моста. Калі знаходку дасталі, аказалася, што гэта праца мастака Уладзіміра Лапо, які зараз жыве ў Лондане. Прычым Уладзь пацвердзіў мне, што гэта сапраўды ягоная праца. Вада карціну амаль не пашкодзіла, і я яе набыў за 10 долараў, змяніў падрамнік...

Увогуле, я збіраю творы сучаснага беларускага мастацтва з 1975 года. У маёй калекцыі больш за паўтары тысячы твораў нашых беларускіх супермастакоў...

**– Думаеце, на айчынных мастаках можна добра зарабіць?**

– Я пра заробкі не думаю. Проста мне падабаюцца беларуская творцы і тое, што яны робяць. На сённяшні дзень я адзін з найбуйнейшых калекцыянераў сучаснага мастацтва.

**– Відаць, вы нябедны чалавек?**

– Бедны! Але багаты душой. Я ж не набываю карціны за свае грошы – часцей за ўсё мне іх дораць самі мастакі...

ЦІ ВЕДАЕЦЕ ВЫ, ШТО...

***

*...Творы Казіміра Малевіча і іншых мастакоў рускага авангарду імітуюць так часта, што на Захадзе іх перасталі браць на аўкцыёны.*

***

*...На арт-рынку таксама вельмі шмат падробак Айвазоўскага, Сальвадора Далі, Вінцэнта ван Гога, Агюста Рэнуара, Клода Манэ, Поля Сезана і іншых. Спіс можна працягваць да бясконцасці.*

***

*...Некалькі гадоў таму вядомая лонданская карцінная галерэя выставіла кітайскія падробкі шэдэўраў жывапісу разам з арыгінальнымі працамі вядомых мастакоў. Арганізатары прапанавалі наведвальнікам выставы ў якасці эксперыменту адрозніць сапраўдныя карціны ад рэпрадукцый.*

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

## Вольга СМАЛЯК: «Лепш за ўсё купляць творы ў саміх мастакоў»

– У мяне такой працы не было, – *пракаменціравалў* ***Андрэй Смаляк*** *"Народнай Волі" гісторыю, у якую трапіў знаёмы Андрэя Плісанава.* – Справа ў тым, што карціна 1982 года, а ў той час я яшчэ не выдзяляў імя жонкі ў сваім подпісе, як рабілю гэта ў апошнія гады. Ды і сюжэт зусім не мой...

– Раней былі выпадкі, калі перапісвалі сюжэт карціны Смаляка і пісалі, што гэта яго праца, – *гаворыць муза, арт-дырэктар і жонка мастака* ***Вольга Смаляк***. – Аднойчы мы былі ў кагосьці ў гасцях і нават бачылі на сцяне такую карціну. А ў выпадку з таварышам Плісанава чалавек нешта намаляваў і падпісаўся імем Смаляка. Мы ў гэтай сітуацыі ніяк не пацярпелі, гэта не наша ўласнасць. Расчараваны павінен быць той, хто набыў падробку...

Дарэчы, зусім нядаўна мы якраз глядзелі трохсерыйны расійскі фільм, дзе таксама фігуравала праца Смаляка! Прычым рэальная! Вакол гэтай карціны будаваўся ўвесь сюжэт.

Мы спачатку абурыліся: нашу карціну скапіравалі для фільма, а як жа аўтарскія правы? А потым махнулі рукой – усё роўна нічога не дакажаш... Але, з іншага боку, было прыемна бачыць на экране твор Смаляка, мы нават яго сфатаграфавалі прама з экрана тэлевізара. Гаворка пра карціну "Пасля балю" ў вядомым праекце "Ажыўшыя карціны", якую ажывіла пераможца аднаго з мінулых конкурсаў "Дзіцячае Еўрабачанне" Ксенія Сітнік.

Той, хто вырабляе фальшывы жывапіс, мабыць, думае так: калі паставіш прозвішча вядомага мастака, то адразу і продаж пойдзе. Але прадаць карціну не так і проста.

А наогул лепш за ўсё купляць творы ў саміх мастакоў – гэта заўсёды гарантыя таго, што атрымаеце арыгінал.

Між іншым, калекцыянеры, набываючы твор, абавязкова фатаграфуюць яго разам з мастаком, прычым з двух бакоў! І сур'ёзныя галерэі заўсёды патрабуюць такія дакументальныя здымкі, каб у далейшым без праблем можна было прадстаўляць карціны на аўкцыёнах і выставах.

**Марына КОКТЫШ.**

ЗАПРАШЭННЕ

# Сустрэнемся ля Вялікага тэатра!




*Кожную нядзелю, пачынаючы з 6 мая, на пляцоўцы перад Вялікім тэатрам будзе іграць аркестр.*

З 17.10 да 17.40 ён будзе выконваць праграмы, аснову якіх складзе папулярная класічная музыка.

*"Гледачоў чакаюць вальсы, полькі, маршы... Музыка Штрауса і Чайкоўскага"*, – распавёў дырыжор **Іван Касцяхін**. Якраз Іван Уладзіслававіч і Алег Лясун (па чарзе) і будуць дырыжыраваць аркестрам у гэты нядзельны вечар.

Аркестр будзе выступаць на свежым паветры па нядзелях да 17 чэрвеня.

*"Нават нельга і ўявіць, як яшчэ лепш можна правесці вечар выхаднога дня!* – усміхаюцца ў тэатры. – *Хіба што пасля гэтага цудоўнага канцэрта зазірнуць у Вялікі тэатр".*

Дарэчы, па нядзелях пачатак спектакляў – у 18.00.

ЗЕМЛЯКІ

# «А ці хоча Руслан Аляхно піярыцца?»

Дабрачынны канцэрт «Па закліку сэрца – усім светам», які адбыўся 18 красавіка на «Бабруйск-Арэне» па ініцыятыве папулярнага эстраднага спевака **Руслана Аляхно** і на якім было сабрана 115 тысяч рублёў для рэканструкцыі дзіцячай бальніцы ў Бабруйску, як высветлілася, не адзіная дабрачынная акцыя нашага земляка.

Пасля канцэрта ў Бабруйску на старонцы Руслана Аляхно ў сацыяльных сетках з'явіўся цікавы запіс. *«Узнікла вялізнае жаданне расказаць пра яшчэ адну добрую справу Руслана Аляхно,* – напісала Аліса Красаўна. – *Паўтара года таму Руслан на све ўласныя сродкі апрануў і абуў хор хлопчыкаў Ялахаўскага сабора. Не памятаю ўжо дакладна, колькі чалавек у хоры – недзе каля 40!!! І на Дні нараджэння Патрыярха Кірыла хлопчыкі красаваліся ў новых беласнежных кашулях, стыльных штанах і модных чаравічках. Ужо тады я зразумела, што гэта не апошняя добрая справа Руслана. Была ўпэўнена, што ён яшчэ створыць нешта грандыёзнае. І вось па ініцыятыве Руслана Аляхно адбыўся новы, сапраўды грандыёзны дабрачынны праект «Па закліку сэрца – усім светам». Руслан, сваім прыкладам ты натхняеш многіх людзей здзяйсняць добрыя справы, рабіць дабро і дарыць надзею! Дзякуй табе за гэта!»*

Дарэчы, мала хто ведае, што напярэдадні тэлемарафону па зборы сродкаў на рэканструкцыю Бабруйскай дзіцячай бальніцы дабрачынны канцэрт арганнай музыкі адбыўся ў Мінску. Акцыю «Па закліку сэрца – усім светам» падтрымаў Каталіцкі касцёл на Беларусі. У сценах мінскага Чырвонага касцёла навучэнцы дзіцячай музычнай школы мастацтваў разам з Русланам Аляхно выступілі з класічнай праграмай. Таксама нядаўна спявак узяў удзел у футбольным матчы з невідушчымі футбалістамі, які прайшоў у мінскім парку Горкага. Завяршыўся таварыскі матч канцэртам.

Яшчэ раней Руслан Аляхно выступіў на Велікодным канцэрце ў Ялахаўскім Богаяўленскім саборы ў Маскве. *«Канцэрт быў цудоўны. Руслан Аляхно, Васіль Вакуленка, больш вядомы як Баста, іншыя выканаўцы парадавалі нашых вернікаў сваёй творчасцю,* – распавялі "Народнай Волі" ў саборы. – *Велікодныя канцэрты – гэта наша традыцыя. Запрашаем усіх жадаючых, для гасцей яны праводзяцца ў агульнадаступным рэжыме абсалютна бясплатна».*

На пытанне, як часта Руслан Аляхно ўдзельнічае ў дабрачынных акцыях сабора, рэферэнт-пробашч Зміцер адказаў коратка: *"А ці хоча Руслан Аляхно піярыцца? Чалавек зрабіў добрую справу. Здзейсні высакародны ўчынак. Гэта яго выбар. Ці хоча ён, каб пра гэта ведалі ўсе?! Напэўна, няправільна задаваць такія пытанні царкве і самому Руслану..."*

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

## ПОНЕДЕЛЬНИК, 7 МАЯ

### Беларусь 1
**06.00, 07.20, 08.15** «Доброе утро, Беларусь!».
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 13.00, 15.00, 17.00, 19.00, 00.05** «Новости».
**07.05, 08.05** «Новости экономики».
**07.10, 08.10, 23.45** «Зона Х».
**09.10** «Главный эфир».
**10.20, 12.10, 19.50, 22.20 «Баллада о бомбере».** Сериал.
**12.45, 13.05, 14.35, 15.30 «Сводные судьбы».** Сериал.
**15.15** «Новости региона».
**17.10** Хоккей. Чемпионат мира. Беларусь–Россия.
**21.00** «Панорама».
**21.50** «Они убивали ангелов».
**23.25** «Арена».
**00.25** «День спорта».

### Беларусь 2
**07.00** «Телеутро».
**09.00, 18.35, 21.05** «Тэлебарометр».
**09.30, 20.00** «Понять. Простить».
**10.25** «Копейка в копейку».
**11.00** «Камень, ножницы, бумага».
**11.30, 23.35** «Свидание с будущим».
**12.30** «Мир наизнанку. Непал».
**13.40** «Утиные истории». Мультсериал.
**14.30** «Цыпленок Цыпа». Мультфильм.
**15.45 «Спасти рядового Райана».** Х/ф.
**19.15** «Суперлото».
**21.10** Хоккей. Чемпионат мира. Канада–Дания. Прямая трансляция (в перерывах – «КЕНО»).
**23.30** «Иди сюда и танцуй».
**00.35** «Сыграй меня, если сможешь».

### Беларусь 3
**07.00** «Дабраранак».
**07.40, 12.20** «Беларуская кухня».
**08.05, 12.00, 19.55** «Навіны культуры».
**08.20, 12.15** «Гэты дзень».
**08.25** «Нацыянальны хіт-парад».
**09.20, 17.40** «Франтавыя гісторыі любімых акцёраў».
**10.00** «Навукаманія».
**10.25 «Вуліца малодшага сына».** М/ф.
**12.50** «Я хачу гэта ўбачыць!».
**13.20** «Наперад у мінулае».
**13.45, 22.35** «Берлін. Май 1945».
**14.30, 21.05 «Бацька салдата».** М/ф.
**16.00 «Гадзіннік спыніўся апоўначы».** М/ф.
**18.20 «Вясна на Зарэчнай вуліцы».** М/ф.
**20.10** «Тэатр у дэталях». **«На дне».** Спектакль Магілёўскага тэатра лялек.
**20.40** «Калыханка».
**23.15** «Святло далёкай зоркі». Памяці мастака Яўгена Красоўскага.

### Беларусь 5
**06.25** Футбол. Чемпионат Англии. «Челси»–«Ливерпуль».
**08.15, 23.35** Хоккей. Чемпионат мира. Дневник.
**08.40** Борьба. Чемпионат Европы.
**10.10** Художественная гимнастика. Челендж-кап. Гвадалахара.
**12.15** «Итоги недели».
**13.00** Теннис. Турнир WTA. Мадрид.
**17.10** Хоккей. Чемпионат мира. США–Германия (в перерывах – «Спорт-центр»).
**19.25** Футбол. Чемпионат Беларуси. «Днепр»–БАТЭ (в перерыве – «Спорт-центр»).
**21.15** Хоккей. Чемпионат мира. Швеция–Франция. Прямая трансляция (в перерывах – «Спорт-центр»).
**00.05** «Время футбола».
**00.45** Футбол. Чемпионат Англии. Обзор тура.

### ОНТ
**06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30** «Наши новости».
**06.10, 07.10, 08.10** «Наше утро».
**09.10** «Контуры».
**10.00** «Жить здорово!».
**11.10** «Модный приговор».
**12.25, 13.10** «Освобожденная Европа. Франция. Сопротивление духа».
**13.55** «Давай поженимся!».
**14.55** «Мужское/Женское».
**16.20** «Легенды цирка».
**16.55** «На самом деле».
**18.20** «Контрольная закупка».
**18.55** «Удача в придачу!» с «Евроопт». Дневник.
**19.00** «Пусть говорят».
**20.00** «Время».
**21.10** «Военные песни». Концерт Елены Ваенги.
**22.30** «Спортклуб».
**23.00 «Женя, Женечка и «катюша».** Х/ф.
**00.30** «Маршалы Победы». Д/ф.
**01.30** «Ночные новости».

### РТР-Беларусь
**07.00** «Утро России».
**10.55** «Погода на неделю».
**11.00, 17.00, 20.00** «Вести».
**11.20 «Государственная граница. Фильм девятый: курьеры страха».** Х/ф.
**13.35** «Наше дело».
**13.50, 16.50, 19.50, 22.40** «Новости – Беларусь».
**14.00 «Днепровский рубеж».** Х/ф.
**17.35 «Сталинград».** Х/ф.
**20.40 «Легенда о Коловрате».** Х/ф.
**22.50** «Вечер».

### НТВ-Беларусь
**05.55** «Астропрогноз».
**06.00, 07.00, 08.00, 10.00, 16.00, 19.00** «Сегодня».
**06.10, 07.10** «Деловое утро НТВ».
**07.50, 08.10 «Мухтар. Новый след».** Сериал.
**08.50 «Супруги».** Сериал.
**09.45** «За гранью».
**10.25 «Ярость».** Сериал.
**12.10** «Жди меня».
**13.10, 16.35 «Братаны».** Сериал.
**17.25** «ДНК».
**18.25** «ЧП. Расследование».
**19.40 «Морские дьяволы. Смерч. Судьбы».** Сериал.
**21.25 «СОБР».** Сериал.
**23.05** «ЧП.by».
**23.25** «Итоги дня».
**23.55** «Символ Победы. Три Маруси».
**00.25 «Подозреваются все».** Сериал.

### СТВ
**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 часа».
**06.10, 17.25** «Минщина».
**06.20, 07.45** «Утро. Студия хорошего настроения».
**07.40, 20.10, 23.00** «СТВ-спорт».
**09.00** «Неделя».
**10.00** «Неделя спорта».
**10.40** «Большой завтрак».
**11.15** «Смотреть всем!».
**11.45 «Департамент».** Сериал.
**13.50 «Мементо».** Х/ф.
**15.45** «Пища богов».
**16.50** «Большой город».
**17.35 «Пассажир без багажа».** Сериал.
**20.00** «Столичные подробности».
**20.15 «Истребители».** Сериал.
**23.05** «Самые шокирующие гипотезы».
**23.55** «Загадки человечества».
**00.45 «Схватка».** Х/ф.

### Мир
**06.00, 03.00 «Оса».** Сериал.
**06.35** «Россия 18+».
**07.40, 01.05** «Кремлевская стража». Д/ф.
**08.10, 13.00 «Щит и меч».** Сериал.
**11.30, 16.00, 19.00, 00.00** «Новости».
**12.00** Торжественная церемония инаугурации Президента Российской Федерации Владимира Владимировича Путина. Прямая трансляция из Андреевского зала Большого Кремлевского дворца.
**16.15** «Зеленая папка президента».
**17.15, 19.20 «Ялта-45».** Сериал.
**21.15, 00.10 «Апперкот для Гитлера».** Сериал.
**01.35 «Воздушный извозчик».** Х/ф.

### Россия Культура
**06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 10.00, 15.00, 19.30, 23.00** «Новости культуры».
**06.35** «Легенды мирового кино».
**07.05** «Эффект бабочки».
**07.35, 20.05** «Правила жизни».
**08.10, 23.20 «Человек на полустанке».** Х/ф.
**09.15** «Николай Крючков».
**10.15, 17.45** «Наблюдатель».
**11.10, 00.25** «ХХ век».
**12.05** «Мы – грамотеи!».
**12.45, 17.30, 01.20** «Мировые сокровища».
**13.00** «Черные дыры. Белые пятна».
**13.40** «В поисках Святого Грааля».
**14.30** «Сигналы точного времени».
**15.10, 01.40** «Времена года». П.И.Чайковский. Исполняют российские звезды фортепианного искусства.
**16.00** «На этой неделе… 100 лет назад».
**16.30** «Агора».
**18.45** «Больше, чем любовь».
**19.45** «Главная роль».
**20.30** «Спокойной ночи, малыши!».
**20.45** «Ступени цивилизации».
**21.35** «Сати. Нескучная классика…».
**22.15** «Они шли за Гитлером. История одной коалиции».
**02.30** «Жизнь замечательных идей».

### Белсат
**07.00, 21.00, 00.50** «Аб'ектыў».
**07.15, 19.50, 21.25, 23.50, 01.20** «Студыя «Белсат».
**07.40** «ПраСвет».
**08.15** «Беларускі свет».
**08.35** «Над Нёмнам».
**08.50** «Кожны з нас»: «Мой рост ніжэй за метр».
**09.40** «Мова нанова»: «Беларускія трэнды».
**10.05** «Эксперт».
**10.25 «Ціхая вада».** М/ф.
**12.20 «Аер».** М/ф.
**13.45** «Будучыня кіно». Д/ф.
**15.55** «Belsat Music LIVE».
**16.25** «Жонкі дэспатаў-2». Д/ф.
**17.15** «Даты праўды: 17.09.1937. Уз'яднанне Беларусі».
**17.35** «План». Д/ф.
**18.30** «Нешта накшталт татуіроўкі». Д/ф.
**18.50, 01.35** «Загадкі беларускай гісторыі»: «Свіслач – самая цікавая з чатырох».
**19.05** «Асабісты капітал».
**19.30** «Вось так».
**21.45 «Шчасце маё».** М/ф.

## ВТОРНИК, 8 МАЯ

### Беларусь 1
**06.00, 07.20, 08.15** «Доброе утро, Беларусь!».
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 13.00, 15.00, 17.00, 19.00** «Новости».
**07.05, 08.05** «Новости экономики».
**07.10, 08.10, 18.15, 00.20** «Зона Х».
**09.10 «След».** Сериал.
**10.50, 12.10, 18.35, 19.20 «Баллада о бомбере».** Сериал.
**13.10** «Детский доктор».
**13.40** «День в большом городе».
**14.40, 15.30 «Клан ювелиров. Возмездие».** Сериал.
**15.15, 18.00** «Новости региона».
**17.05** «Белорусское «Времечко».
**21.00** «Панорама».
**21.45** «Специальный репортаж».
**22.00** Международный конкурс песни «Евровидение–2018». Первый полуфинал.
**00.00** «Сфера интересов».
**00.45** «День спорта».

### Беларусь 2
**07.00** «Телеутро».
**09.00, 21.05** «Тэлебарометр».
**09.05 «Старое ружье».** Сериал.
**13.05 «Еще о войне».** Х/ф.
**14.05, 23.30** «Орел и решка. Кругосветка».
**15.05** «Барышня-крестьянка».
**16.15** «Ничего себе ньюз».
**16.20** «Пин_код».
**17.10** Хоккей. Чемпионат мира. Южная Корея–Латвия. Прямая трансляция.
**19.30 «Вам – задание».** Х/ф.
**21.10** Хоккей. Чемпионат мира. Финляндия–Норвегия. Прямая трансляция (в перерывах – «Спортлото 6 из 49», «КЕНО»).

### Беларусь 3
**07.00** «Дабраранак».
**07.40, 12.20** «Беларуская кухня».
**08.05, 12.00, 20.00** «Навіны культуры».
**08.20, 12.15, 20.15** «Гэты дзень».
**08.25 «Дзяўчынка шукае бацьку».** М/ф.
**09.55, 18.50** «Франтавыя гісторыі любімых артыстаў».
**10.35** «Яны спявалі за Радзіму».
**11.05** «Перамога». Аўтарскі канцэрт Валерыя Галаўко.
**12.50** «Я хачу гэта ўбачыць!».
**13.15** «75 гадоў Акадэмічнаму ансамблю песні і танца Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь». Канцэрт.
**14.55, 23.00** «Берлін. Май 1945».
**15.30, 21.05 «Нармандыя–Нёман».** М/ф.
**17.30 «Цераз могілкі».** М/ф.
**19.30** «Ваша лато», «Пяцёрачка».
**20.20** «Святое, незабыўнае…».
**20.40** «Калыханка».
**23.40** «Майстэрня. Гісторыя аднаго мастака».

### Беларусь 5
**06.25** Хоккей. Чемпионат мира. Канада–Дания.
**08.20, 23.35** Хоккей. Чемпионат мира. Дневник.
**08.45** Футбол. Чемпионат Англии. Обзор тура.
**09.40** «Время футбола».
**10.25** «Легенды мирового спорта».
**10.55** Хоккей. Чемпионат мира. Беларусь–Россия.
**13.00, 19.25** Теннис. Турнир WTA. Мадрид. Прямая трансляция.
**17.10** Хоккей. Чемпионат мира. Австрия–Словакия. Прямая трансляция (в перерывах – «Спорт-центр»).
**21.10** Хоккей. Чемпионат мира. Чехия–Швейцария. Прямая трансляция (в перерывах – «Спорт-центр»).
**00.05** «Спорт-кадр».

### ОНТ
**06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30** «Наши новости».
**06.10, 07.10, 08.10** «Наше утро».
**09.10** «Маршал Рокоссовский. Любовь на линии огня».
**10.00** «Жить здорово!».
**11.10** «Модный приговор».
**12.25, 13.10** «Освобожденная Европа. Финляндия. Линия Маннергейма».
**13.55** «Давай поженимся!».
**14.55** «Мужское/женское».
**16.20** «Спортклуб».
**16.55** «На самом деле».
**18.20** «Удача в придачу!» с «Евроопт».
**19.05** «Пусть говорят».
**20.00** «Время».
**21.10** «Наша жизнь».
**22.15 «Перед рассветом».** Х/ф.
**23.55** «Маршалы Победы». Д/ф.
**00.55** «Ночные новости».

### РТР-Беларусь
**07.00** «Утро России».
**11.00, 20.00** «Вести».
**11.35** «Аншлаг и компания».
**13.50, 16.50, 19.50, 23.00** «Новости – Беларусь».
**14.00, 17.00 «Птичка певчая».** Сериал.
**17.55** Праздничный концерт, посвященный Дню Победы.
**20.40, 23.10 «На пороге любви».** Х/ф.

### НТВ-Беларусь
**05.55** «Астропрогноз».
**06.00, 07.00, 08.00, 10.00, 13.00, 16.00, 19.00** «Сегодня».
**06.10, 07.10** «Деловое утро НТВ».
**07.50, 08.10 «Мухтар. Новый след».** Сериал.
**08.50 «Супруги».** Сериал.
**09.40, 23.05** «ЧП.by».
**10.25 «Ярость».** Сериал.
**12.00** «Суд присяжных».
**13.25, 18.25** «Обзор. Чрезвычайное происшествие».
**14.05, 16.35 «Братаны».** Сериал.
**17.25** «ДНК».
**19.40 «Морские дьяволы. Смерч. Судьбы».** Сериал.
**21.25 «СОБР».** Сериал.
**23.25** «Итоги дня».
**23.55** «Символ Победы. Алеша».
**00.25 «Подозреваются все».** Сериал.

### СТВ
**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 часа».
**06.10, 17.25** «Минщина».
**06.20, 07.45** «Утро. Студия хорошего настроения».
**07.40, 20.10, 23.00** «СТВ-спорт».
**09.00 «Беглецы».** Х/ф.
**10.40, 23.05** «Самые шокирующие гипотезы».
**11.30** «Смотреть всем!».
**11.45 «Департамент».** Сериал.
**13.50,20.15 «Истребители».** Сериал.
**16.10** «Дальние родственники».
**16.50** «Центральный регион».
**17.35** «Водить по-русски».
**17.50 «Пассажир без багажа».** Сериал.
**20.00** «Столичные подробности».
**23.50** «Автопанорама».
**00.10** «Загадки человечества».
**00.55 «Команда Че».** Сериал.

### Мир
**06.00, 03.30 «Оса».** Сериал.
**08.00, 10.00, 13.00, 16.00, 19.00, 00.00** «Новости».
**08.05, 10.05, 13.15 «Похищение богини».** Сериал.
**16.15** «Игра в кино».
**17.10, 19.20 «О бедном гусаре замолвите слово».** Х/ф.
**20.45, 00.10 «Ялта-45».** Сериал.
**00.30** «Песни Победы».
**01.15 «В небе «ночные ведьмы».** Х/ф.
**02.35** «Любимые актеры».
**03.05** «Кремлевская стража».

### Россия Культура
**06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 10.00, 15.00, 19.30, 23.00** «Новости культуры».
**06.35** «Легенды мирового кино».
**07.05** «Пешком…».
**07.35, 20.05** «Правила жизни».
**08.10, 23.20 «Иван».** Х/ф.
**09.25** «Письма».
**09.40, 19.45** «Главная роль».
**10.15, 17.45** «Наблюдатель».
**11.10, 00.30** «ХХ век».
**12.25** «Гений».
**13.00** «Сати. Нескучная классика…».
**13.40** «Жизнь и смерть в Помпеях».
**14.30** «Сигналы точного времени».
**15.10, 01.50** Произведения С.Рахманинова. Владимир Овчинников.
**16.00** «Пятое измерение».
**16.25** «2 Верник 2».
**17.20** «Жизнь замечательных идей».
**18.45** «Больше, чем любовь».
**20.30** «Спокойной ночи, малыши!».
**20.45** «Ступени цивилизации».
**21.35** «Искусственный отбор».
**22.15** «Они шли за Гитлером. История одной коалиции».
**02.40** «Мировые сокровища».

### Белсат
**07.00, 08.30, 13.55, 15.25, 19.50, 21.25, 23.30, 01.00** «Студыя «Белсат».
**08.05, 15.00, 21.00, 00.35** «Аб'ектыў».
**08.45, 15.45** «Загадкі беларускай гісторыі»: «Свіслач – самая цікавая з чатырох».
**09.05, 16.05** «Асабісты капітал».
**09.25 «Час гонару».** Серыял.
**10.10, 18.10** «Людскія справы»: «Блогеры – люстэрка грамадства ці рухавік сістэмных змен?».
**10.45, 17.15** «Эксперт».
**11.05** «Піна». Д/ф.
**12.45** «Даты праўды: 17.09.1937. Уз'яднанне Беларусі».
**13.05 «Сенсацыі ХХ стагоддзя».** Серыял.
**16.25** «Кожны з нас»: «Мой рост ніжэй за метр».
**17.35** «Belsat Music LIVE».
**18.40, 01.20** «Беларускі свет».
**19.00** «Прыват»: «Мужчынскае здароўе: без даведкі не падыходзь!».
**19.30** «Вось так».
**21.40 «Лютэр».** Серыял.
**22.40** «Жонкі дэспатаў-2». Д/ф.

## СРЕДА, 9 МАЯ

### Беларусь 1
**06.45, 23.00 «Брестская крепость».** Х/ф.
**09.00, 12.00, 15.00** «Новости».
**09.10 «В бой идут одни «старики».** Х/ф.
**11.00** Возложение цветов и венков к монументу Победы в г.Минске в рамках акции «Беларусь помнит!». Прямая трансляция.
**11.40, 12.15 «А зори здесь тихие…».** С.
**15.25** Торжественное собрание и праздничный концерт, посвященные Дню Победы.
**16.55** Минута молчания. Светлой памяти павших в борьбе против фашизма.
**17.10** Хоккей. Чемпионат мира. Швейцария–Беларусь.
**19.30 «Сваты-6».** Сериал.
**20.30** «Панорама».
**21.15** «Специальный репортаж».
**21.30** Торжественный театрализованный концерт мастеров искусств «Площадь Победы». Прямая трансляция.

### Беларусь 2
**07.00** «Партизаны». Хроникодокументальный цикл.
**07.50, 21.05** «Тэлебарометр».
**07.55, 19.05 «Высота 89».** Сериал.
**09.50 «Вам – задание».** Х/ф.
**11.15 «Ялта-45».** Сериал.
**15.15, 17.00 «Старое ружье».** Сериал.
**16.55** Минута молчания. Светлой памяти павших в борьбе против фашизма.
**21.10** Хоккей. Чемпионат мира. Финляндия–Дания. Прямая трансляция (в перерывах – «Спортлото 5 из 36», «КЕНО»).
**23.30 «Еще о войне».** Х/ф.

### Беларусь 3
**07.30, 13.10, 20.20** «Навіны культуры».
**07.45, 13.25** «Гэты дзень».
**07.50 «Вуліца малодшага сына».** М/ф.
**09.25, 13.30, 15.25, 22.20** «Дзённікі беларускага падполля».
**09.55** Гала-канцэрт XXI тэлевізійнага фестывалю армейскай песні «Звязда».
**11.35 «Гадзіннік спыніўся апоўначы».** М/ф.
**14.00 «Дзяўчынка шукае бацьку».** М/ф.
**15.50, 17.00 «Чорная бяроза».** М/ф.
**16.55** Хвіліна маўчання. Светлай памяці загінуўшых у барацьбе супраць фашызму.
**18.10 «Дняпроўскі рубеж».** М/ф.
**20.40** «Калыханка».
**21.05 «Вазьму твой боль».** М/ф.
**22.50 «Цераз могілкі».** М/ф.

### Беларусь 5
**06.25** Футбол. Чемпионат Англии. «Суонси»–«Саутгемптон».
**08.15** Хоккей. Чемпионат мира. Финляндия–Норвегия.
**10.15, 23.35** Хоккей. Чемпионат мира. Дневник.
**10.40** «Козел про футбол».
**11.00** Хоккей. Чемпионат мира. Южная Корея – Латвия.
**13.00, 19.25** Теннис. Турнир WTA. Мадрид. Прямая трансляция.
**17.10** Хоккей. Чемпионат мира. Германия – Южная Корея. Прямая трансляция (в перерывах – «Спорт-центр»).
**21.10** Хоккей. Чемпионат мира. Швеция–Австрия. Прямая трансляция (в перерывах – «Спорт-центр»).
**00.05** «Слэм-данк».

### ОНТ
**07.00, 09.00, 16.00, 20.30** «Наши новости».
**07.10** «Наше утро».
**09.10 «Белорусский вокзал».** Х/ф.
**11.00** Торжественная церемония возложения цветов и венков к монументу Победы. Прямая трансляция.
**11.40** «Песни Весны и Победы».
**12.00 «Диверсант».** Сериал.
**16.20** «Поющая эскадрилья».
**16.55** Минута молчания. Светлой памяти павших в борьбе против фашизма.
**17.00 «В бой идут одни «старики».** Х/ф.
**18.40** «Удача в придачу!» с «Евроопт». Дневник.
**18.45** «Бессмертный полк».
**21.05 «Офицеры».** Х/ф.
**22.50** Праздничный концерт ко Дню Победы.

### РТР-Беларусь
**07.00, 11.00** «День Победы». Праздничный канал.
**10.00** Военный парад, посвященный 73-й годовщине Победы в Великой Отечественной войне 1941–1945 годов. Москва. Красная площадь. Прямая трансляция.
**13.50, 18.00, 19.50, 23.30** «Новости – Беларусь».
**14.00** «Вести».
**15.00** «Бессмертный полк». Шествие в честь 73-й годовщины Великой Победы.
**18.10** «На честном слове и на одном крыле».
**18.55** Минута молчания. Светлой памяти павших в борьбе против фашизма.
**19.00, 20.20, 22.15, 23.40 «Остаться в живых».** Сериал.
**20.00** «Вести».
**21.55** «Вести. Специальный выпуск».
**22.00** Праздничный салют, посвященный Дню Победы.

### НТВ-Беларусь
**06.10** «Астропрогноз».
**06.15** «Символ Победы. Брестская крепость».
**06.45** «Алтарь Победы».
**07.30** «Символ Победы. Воин-освободитель».
**08.00, 19.00** «Сегодня».
**08.15 «Отец солдата».** Х/ф.
**10.00** Москва. Красная площадь. Парад, посвященный Дню Победы.
**11.00** «Алтарь Победы».
**11.55** «Вторая мировая. Великая Отечественная».
**12.55** «Они убивали ангелов».
**13.35** «Жди меня». Специальный выпуск ко Дню Победы.
**15.35 «Чаклун и Румба».** Х/ф.
**16.55** Минута молчания. Светлой памяти павших в борьбе против фашизма.
**17.00 «В августе 44-го…».** Х/ф.
**19.40 «Морские дьяволы. Смерч. Судьбы».** Сериал.
**21.20 «Топор».** Х/ф.
**23.15 «Пять невест».** Х/ф.
**01.05** «Символ Победы. Родина-мать».

### СТВ
**06.35, 07.40, 18.00 «Любовь земная».** Х/ф.
**07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 часа».
**08.30** «Автопанорама».
**08.50, 10.40, 11.40 «Три дня лейтенанта Кравцова».** Сериал.
**11.00** Возложение цветов и венков к монументу Победы в г.Минске в рамках акции «Беларусь помнит!». Прямая трансляция.
**13.50, 20.20, 23.10 «Истребители».** Сериал.
**16.00, 17.00 «Баллада о солдате».** Х/ф.
**16.55** Минута молчания. Светлой памяти павших в борьбе против фашизма.
**20.15** «СТВ-спорт».

### Мир
**06.00 «В небе «ночные ведьмы».** Х/ф.
**07.25, 23.15** «Игра в кино».
**08.10, 22.30** «Наше кино. История большой любви».
**08.55, 11.25, 16.15, 19.15, 22.10 «Семнадцать мгновений весны».** Сериал.
**09.50, 16.00, 19.00, 21.55** «Новости».
**10.00** Военный парад. Москва. Красная площадь.
**11.00** «Беларусь помнит!». Торжественная церемония возложения цветов и венков к монументу Победы.
**18.55** Минута молчания. Светлой памяти павших в борьбе против фашизма.
**22.00** Салют, посвященный празднованию Дня Победы.
**00.05 «О бедном гусаре замолвите слово».** Х/ф.
**03.15 «Два бойца».** Х/ф.
**04.50 «Оса».** Сериал.

### Россия Культура
**06.30** «Военные сороковые».
**07.20 «Неизвестный солдат».** Х/ф.
**10.45** «Марк Бернес. Любимые песни».
**11.10, 00.15 «Небесный тихоход».** Х/ф.
**12.25** «Они шли за Гитлером. История одной коалиции».
**13.45** «ХХ век».
**16.00 «Мы из будущего».** Х/ф.
**18.55** Минута молчания. Светлой памяти павших в борьбе против фашизма.
**19.00** «Чистая победа. Битва за Берлин».
**19.45** «Переделкино». Концерт в Доме-музее Булата Окуджавы.
**21.10 «Сердца четырех».** Х/ф.
**22.40** «Закрытие XVII Московского Пасхального фестиваля». Симфонический оркестр Мариинского театра.
**01.30** «Письма», «Сизый голубочек». Мультфильмы.
**01.55** «Искатели».

### Белсат
**07.00, 08.30, 19.50, 00.05, 01.35** «Студыя «Белсат».
**08.05, 21.00, 01.10** «Аб'ектыў».
**08.50** «Беларускі свет».
**09.10** «Прыват»: «Мужчынскае здароўе: без даведкі не падыходзь!».
**09.40 «Час гонару».** Серыял.
**10.30, 15.20** «Кулінарныя падарожжы Роберта Макловіча».
**10.55** «Дагістарычныя монстры Гітлера». Д/ф.
**11.45** «Нешта накшталт татуіроўкі». Д/ф.
**12.05** «Невядомая Беларусь»: «Праклятыя і забытыя». Д/ф.
**13.15** «Жонкі дэспатаў-2». Д/ф.
**14.10** «Загадкі беларускай гісторыі».
**14.25** «Балтыйскі покер. У што гуляе Пуцін?». Д/ф.
**15.50 «Лютэр».** Серыял.
**16.45** «Войтэк – мядзведзь, які пайшоў на вайну». Д/ф.
**17.45** «Кожны з нас»: «Мой рост ніжэй за метр».
**18.40, 01.55** «Вяскоўцы».
**19.05** «Маю права».
**19.30** «Вось так».
**21.25** «Intermarium: вайна ўсіх супраць усіх».
**22.10 «Венецыя».** М/ф.

## ЧЕТВЕРГ, 10 МАЯ

### Беларусь 1
**06.00, 07.20, 08.15** «Доброе утро, Беларусь!».
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 13.00, 15.00, 17.00, 19.00** «Новости».
**07.05, 08.05** «Новости экономики».
**07.10, 08.10, 18.15, 00.20** «Зона Х. Криминальные новости».
**08.50** Слово митрополита Тадеуша Кондрусевича на праздник Вознесения Господня.
**09.10 «А зори здесь тихие…».** Сериал.
**10.50, 12.10, 18.35, 19.20 «Баллада о бомбере».** Сериал.
**13.10** «Детский доктор».
**13.40** «День в большом городе».
**14.40, 15.30 «Клан ювелиров. Возмездие».** Сериал.
**15.15, 18.00** «Новости региона».
**17.05** «Белорусское времечко».
**21.00** «Панорама».
**22.00** «Евровидение–2018». Прямая трансляция.
**00.00** «Сфера интересов».
**00.45** «День спорта».

### Беларусь 2
**07.00** «Телеутро».
**09.00, 21.05** «Тэлебарометр».
**09.05, 19.30** «Слепая». Док.сериал.
**10.05, 23.30 «Академия».** Сериал.
**12.05** «Орел и решка. Кругосветка».
**13.05** «Барышня-крестьянка».
**14.10** «Битва салонов».
**15.15, 20.30** «Семья 3D».
**16.15** «Ничего себе ньюз».
**16.20** «Пин_код».
**17.10** Хоккей. Чемпионат мира. Словакия–Франция. Прямая трансляция.
**21.10** Хоккей. Чемпионат мира. Норвегия–Канада. Прямая трансляция (в перерывах – «Спортлото 6 из 49», «КЕНО»).

### Беларусь 3
**07.00** «Дабраранак».
**07.40, 12.20, 20.10** «Беларуская кухня».
**08.05, 12.00, 19.55** «Навіны культуры».
**08.20, 12.15** «Гэты дзень».
**08.25 «Чорная бяроза».** М/ф.
**09.40, 18.50** «Франтавыя гісторыі любімых артыстаў».
**10.20** «Яны спявалі за Радзіму».
**10.50** «Музыка роднай краіны». Канцэрт.
**11.45** «Размовы пра духоўнае».
**12.45** «Я хачу гэта ўбачыць!».
**13.10** «Гуляй, душа!».
**14.20, 22.40** «Сталінград. Перамога, якая змяніла свет».
**14.55, 21.05 «Ляцяць жураўлі».** М/ф.
**16.35 «Дняпроўскі рубеж».** М/ф.
**19.30** «Партызанская вайна».
**20.40** «Калыханка».
**23.15** «Майстэрня. Гісторыя аднаго мастака».
**23.40** «Святло далёкай зоркі». Памяці спевака, заслужанага артыста БССР Эдуарда Міцуля.

### Беларусь 5
**06.25** Футбол. Чемпионат Англии. «Тоттенхэм»-«Ньюкасл».
**08.25** «Игры «на вырост».
**08.55** «Слэм-данк».
**09.25, 11.25, 23.35** Хоккей. Чемпионат мира.
**11.50** «Легенды мирового спорта».
**12.20** «На пути к чемпионату мира – 2018».
**13.00** Теннис. Турнир WTA. Мадрид. Прямая трансляция.
**17.10** Хоккей. Чемпионат мира. США–Латвия. Прямая трансляция (в перерывах – «Спорт-центр»).
**19.25** Теннис. Турнир WTA. Мадрид.
**21.10** Хоккей. Чемпионат мира. Чехия–Россия. Прямая трансляция (в перерывах – «Спорт-центр»).
**00.05** «Мир английской премьер-лиги». Видеожурнал.

### ОНТ
**06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30** «Наши новости».
**06.10, 07.10, 08.10** «Наше утро».
**09.10** «Самый народный артист Николай Крючков».
**10.00** «Жить здорово!».
**11.10** «Модный приговор».
**12.25, 13.10** Концерт, посвященный 45-летию фильма «Офицеры».
**13.55** «Давай поженимся!».
**14.55** «Мужское/Женское».
**16.20** «Легенды цирка».
**16.55** «На самом деле».
**18.20** «Контрольная закупка».
**18.55** «Удача в придачу!» с «Евроопт». Дневник.
**19.00** «Пусть говорят».
**20.00** «Время».
**21.10 «Пять невест».** Сериал.

### РТР-Беларусь
**07.00** «Утро России».
**11.00, 14.00, 17.00, 20.00** «Вести».
**11.35 «Был месяц май».** Х/ф.
**13.50, 16.50, 19.50, 23.00** «Новости – Беларусь».
**14.35** «О самом главном».
**15.45** «60 минут».
**17.35** «Судьба человека».
**18.45** «Андрей Малахов. Прямой эфир».
**20.40 «Право последней ночи».** Х/ф.
**22.15, 23.10 «Через беды и печали».** Сериал.

### НТВ-Беларусь
**05.55** «Астропрогноз».
**06.00, 07.00, 08.00, 10.00, 13.00, 16.00, 19.00** «Сегодня».
**06.10, 07.10** «Деловое утро НТВ».
**07.50, 08.10 «Мухтар. Новый след».** Сериал.
**08.50 «Супруги».** Сериал.
**09.45** «За гранью».
**10.25 «Ярость».** Сериал.
**12.05** «Суд присяжных».
**13.25, 18.25** «Обзор. Чрезвычайное происшествие».
**14.05, 16.35 «Братаны».** Сериал.
**17.25** «ДНК».
**19.40 «Морские дьяволы. Смерч. Судьбы».** Сериал.
**21.25 «СОБР».** Сериал.
**23.05** «ЧП.by».
**23.25** «Итоги дня».
**23.55** «Символ Победы. Саласпилс».
**00.25 «Подозреваются все».** Сериал.

### СТВ
**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 часа».
**06.10, 17.25** «Минщина».
**06.20, 07.45** «Утро. Студия хорошего настроения».
**07.40, 20.10, 23.00** «СТВ-спорт».
**09.00 «Баллада о солдате».** Х/ф.
**10.40, 23.05** «Самые шокирующие гипотезы».
**11.30 «Следаки».** Сериал.
**11.55 «Три дня лейтенанта Кравцова».** Сериал.
**13.50 «Истребители».** Сериал.
**16.05** «Дальние родственники».
**16.50** «Минск и минчане».
**17.35** «Водить по-русски».
**17.50 «Зачем тебе алиби?».** Сериал.
**20.00** «Столичные подробности».
**20.15** Специальный репортаж СТВ.
**20.35** «Как устроена Вселенная».
**22.05** «Смотреть всем!».
**23.50** «Автопанорама».
**00.10** «Загадки человечества».
**00.55 «Команда Че».** Сериал.

### Мир
**06.00 «Оса».** Сериал.
**07.20, 08.05, 10.05, 13.15 «Семнадцать мгновений весны».** Сериал.
**08.00, 10.00, 13.00, 16.00, 19.00, 00.15** «Новости».
**14.00** «Дела семейные. Битва за будущее».
**15.00** «Дела семейные. Новые истории».
**16.15, 23.20** «Игра в кино».
**17.10, 19.20 «Следы апостолов».** Сериал.
**21.10 «Психопатка».** Х/ф.
**00.25 «Рам и Шиам».** Х/ф.
**03.50** «Наше кино. История большой любви».
**04.20 «Светлый путь».** Х/ф.

### Россия Культура
**06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 10.00, 15.00, 19.30, 23.10** «Новости культуры».
**06.35** «Легенды мирового кино».
**07.05** «Пешком…».
**07.35, 20.05** «Правила жизни».
**08.10 «Сердца четырех».** Х/ф.
**09.40, 19.45** «Главная роль».
**10.15, 17.45** «Наблюдатель».
**11.10, 00.10** «ХХ век».
**12.00** «Абсолютный слух».
**12.45, 01.55** «Самуил Маршак. Обыкновенный гений».
**13.35** «Летний дворец и тайные сады последних императоров Китая».
**14.30** «Сигналы точного времени».
**15.10** Андрей Писарев. Произведения Ф.Листа.
**16.05** «Сахалар – потомки кузнецов».
**16.35** «Исаак Шварц – звезда пленительного счастья».
**17.30, 02.40** «Мировые сокровища».
**18.45** «Больше, чем любовь».
**20.30** «Спокойной ночи, малыши!».
**20.45** «Ступени цивилизации».
**21.40** «Энигма. Аида Гарифуллина».
**22.20** «Андрей и Зоя».
**23.30** «Черные дыры. Белые пятна».
**01.00** Дмитрий Маслеев, Александр Рамм, Александр Сладковский и ГСО Республики Татарстан.

### Белсат
**07.00, 14.00, 19.50, 21.25, 23.25, 00.50** «Студыя «Белсат».
**08.05, 15.05, 21.00, 00.25** «Аб'ектыў».
**08.30, 15.35** «Вяскоўцы».
**09.00, 16.00** «Маю права».
**09.20 «Час гонару».** Серыял.
**10.10, 16.25** «Беларускі свет».
**10.35 «Венецыя».** М/ф.
**12.30, 17.35** «Прыват»: «Мужчынскае здароўе: без даведкі не падыходзь!».
**13.00** «Войтэк – мядзведзь, які пайшоў на вайну». Д/ф.
**16.45 «Сенсацыі ХХ стагоддзя».** Серыял.
**18.05** «Эксперт».
**18.30** «Чалавек з ГУЛАГа». Рэпартаж.
**18.55, 01.10** «Людскія справы».
**19.30** «Вось так».
**21.45 «Левасуддзе».** Серыял.
**22.35** «План». Д/ф.

